


БЕЖАНСТВА. EXODUS →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Магічны цэнтр свету (2) →8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3095) Год LX Беласток, 6 верасня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Сотая гадавіна Бельскай бітвы і бежанства

Дакладна сто гадоў мінула з таго часу, калі жыхары Бельска-Падляшскага і наваколля падаліся ў бежанства, а каля горада разыгралася бітва паміж салдатамі расійскай і нямецкай армій. З ініцыятывай адзначыць гістарычныя падзеі стогадовай даўнасці выйшаў Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах». Падтрымаў яго бургамістр Яраслаў Бароўскі. Вясной гэтага года пачалася падрыхтоўка да гістарычнага мерапрыемства, якое адбылося 23 жніўня на тэрыторыі горада і Бельскай вясковай гміны. У арганізаванне імпрэзы ўключылася Маршалкоўская ўправа ў Беластоку, дзякуючы чаму мерапрыемства набыло ваяводскі ранг.

Мерапрыемства пачалося літургіяй у царкве св. Іаана Багаслова ў Ягуштове. Пасля сабраныя перайшлі на мясцовыя ваенныя могілкі, дзе маліліся за душы загінуўшых падчас Першай сусветнай вайны салдат і памерлых бежанцаў. На магілах былі ўскладзены кветкі. Падобныя малітвы былі здзейснены на ваенных могілках у Студзіводах, дзе з удзелам шматлікіх гасцей быў урачыста адкрыты «Шлях усходняга фронту Першай сусветнай вайны», які праходзіць, між іншым, праз Студзіводы і Ягуштова. Марцін Томкель, які вёў мерапрыемства, з'яўляецца аўтарам нядаўна выдадзенай кніжкі «Вайна вялізарных дзяржаў. Падляшша 1914-1915», якую можна было купіць падчас імпрэзы і атрымаць аўтограф аўтара.

— Усё пачалося з таго, што журналіст Марцін Томкель у мінулым годзе збіраў матэрыялы аб Першай сусветнай вайне, трапіў да мяне і тады паўстала ідэя сённяшняга мерапрыемства. Бельская бітва была адной з самых вялікіх на ўсходнім фронце Першай сусветнай вайны. Яшчэ 18 жніўня фронт стаяў каля Боцькаў, а 19 жніўня, на Спаса, нямецкае войска падышло пад Бельск. Вайсковае змаганне каля Бельска было вельмі важным, пісалі аб бітве ў амерыканскіх газетах. На могілках у Ягуштове і Студзіводах ляжаць тысячы салдат, — расказаў **Дарафей Фіёнік**. — У жніўні 1915 года вырашаліся лёсы нашай тэрыторыі. Дайшло тады да дэмаграфічнай катастрофы, бо 80% людзей, якія тут жылі, пакінулі сваю зямлю і падаліся ў бежанства.

Многа людзей прыехала ў Студзіводы, каб пaглядзець гістарычныя рэканструкцыі бежанства і Бельскай бітвы. У пачатку мерапрыемства, падчас афіцыйнай часткі, выступілі гаспадары мерапрыемства і госці.

— Першую сусветную вайну вялі дзве вялікія арміі, але ў іх складзе былі палякі, беларусы, украінцы. Часта яны стралялі да сябе насуперак уласнай волі, бо такі быў загад іх камандзіраў, — заявіў пасол Сейма РП **Роберт Тышкевіч**, які перадаў сабраным прывітанні ад маршалка Сейма РП Малгажаты Кідавы-Блонскай. На мерапрыемства прыбылі таксама паслы Сейма Аляксандр Сасна і Яўген Чыквін.

— Падумайма, як бы мы сябе адчувалі, калі б пачулі, што ўсё трэба пакінуць дома, захапіць тое, што ў нас пад рукой і выехаць на адлегласць соцень кіламетраў у невядомае. Памятайма, што няма добрых войнаў. Незалежна ад канчатковых вырашэнняў, ваенная завіруха заўсёды з'яўляецца катаклізмам для жыхароў, якія жывуць на яе дарозе, — гаварыў намеснік маршалка Падляшскага ваяводства **Мацей Жыўна**, які перадаў прывітанні ад падляшскага маршалка Мечыслава Башко.

Малітвы над ваеннымі магіламі ўзначальвалі праваслаўныя і каталіцкія святары, спяваў хор Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага. Побач бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслава Бароўскага і бельскага войта Раісы Раецкай у мерапрыемстве прысутнічалі старшыня Рады горада Бельска Ігар Лукашук, мясцовыя радныя, гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк. За мерапрыемствам наглядаў дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы **Анатоль Вап**.

— Народ, які не памятае сваёй гісторыі, можа знікнуць. Мы будзем намагацца рознымі спосабамі набліжаць жыхарам горада і наваколля нашую гісторыю. На ваяводскае мерапрыемства прыехалі таксама жыхары Беластока і іншых мясцовасцей. Мы будзем намагацца, каб настаўнікі на ўроках гісторыі расказвалі пра Бельскую бітву, апісвалі бежанства, каб вучні былі свядомыя свайго мінулага. Кніжка пра Першую сусветную вайну Марціна Томкеля, сённяшнія рэканструкцыі бежанства і ваенных дзеянняў таксама з'яўляюцца вельмі добрым урокам гісторыі. Паколькі яны вельмі цікавыя, павінны надоўга застацца ў памяці сабраных. Спачатку мы думалі адзначыць гадавіну сваімі сіламі і гэта зрабілі б, толькі ў намнога меншым маштабе, чым гэта адбываецца сёння. Маршалкоўская ўправа далучылася да нас і нашая гістарычная імпрэза пераўтварылася ў ваяводскае мерапрыемства, — сказаў бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі.

У Студзіводах вельмі цікава атрымалася інсцэніроўка выезду мясцовага насельніцтва ў бежанства ў жніўні 1915 года. Паміж вясковай і мяшчанскай хатамі Музея малой айчыны ў Студзіводах сабралася многа людзей. На сабраных вялікае ўражанне зрабілі салдаты расійскай арміі на конях. Забралі яны мясцовага хлопца ў армію і пераказалі паведамленні ад царскіх чыноўнікаў, у тым ліку загад уцякаць перад надыходзячай нямецкай арміяй у глыб Расіі. Дзве сям'і, мяшчанская і сялянская, цікава паказалі жыццё перад надыходам фронту. Аднак самае вялікае ўражанне на публіцы зрабіла падрыхтоўка да выезду ў бежанства і сам выезд. Малады і старэйшыя акцёры на два вазы з драўлянымі коламі пачалі грузіць свой падручны маёнтак, не забываючы пра іконы. Аднаго каня запрэглі ў воз хутка, а другі быў наравісты, нервова гроб капытамі па пясчанай дарозе, кідаў у бакі галавой і голасна іржаў. Гэта быў самы вялікі спецыяльны эфект рэканструкцыі бежанства. Напалоханая публіка, што стаяла паблізу каня, хутка стала адступаць назад, а конь, як бы адчуў, што з'яўляецца галоўным акцёрам, яшчэ больш паказваў сваю наравістасць. Ажно трох мужчын прытрымлівала яго пры запраганні ў воз. Смутак, плач, а нават лямантаванне спадарожнічалі бежанцам. Адны бежанцы на вазах, а большасць пяшком перамяшчаліся за вазамі па Студзіводах.

— У інсцэніроўцы выезду ў бежанства прымае ўдзел каля 30 асоб. Гэта вучні і дарослыя члены тэатральнага калектыву «Антракт» і тэатральнага гуртка «Рэтра» Белькага дома культуры, моладзь і дарослыя асобы з калектываў «Малінкі» з Малінніка і «Жэмэрва» з нашага музея, а таксама асобы з Мінска. Тут прэзентуецца ўрок гісторыі, падчас якога мы вяртаемся ў часе сто гадоў назад. Я сам вельмі ўзрушыўся сённяшняй рэканструкцыяй бежанства, бо такой жывой ігры не заступяць ні фільм, ні тэатр, ні кніжка. Былі праблемы знайсці вазы на драўляных колах і коней, якіх у нас зараз вельмі мала, але мы пераадолелі складанасці, — расказаў **Дарафей Фіёнік**.

— Бежанства было для нашых людзей горшым, чым абедзве сусветныя войны. У бежанства падаліся амаль усе праваслаўныя жыхары гэтых тэрыторый і мяркуецца, што 30-40% з іх не вярнуліся дамоў. Паслядоўнасці бежанства былі аграмадныя, як у матэрыяльным, так і ў духовым плане. Нашыя продкі да вайны трымаліся традыцыйных хрысціянскіх вартасцей, а з Расіі вярталіся азнаёмленыя з рэвалюцыйнай прапагандай, — заявіў прафесар **Алег Латышонак** з Універсітэта ў Беластоку.

Вялікае ўражанне на сабраных зрабіла рэканструкцыя Бельскай бітвы ў Студзіводах, якую паказалі члены рэканструкцыйных груп, пераапранутыя за салдат расійскай і нямецкай армій. Вакол тэрыторыі, на якой адбываліся ваенныя дзеянні, сабралася мноства бельшчан і прыезджых, якія рабілі здымкі і здымалі фільмы. Бітва закончылася паразай расійскай арміі, салдаты якой трапілі ў палон. З палону вызвалілі іх расійскія конікі і тады расійскае войска адступілася за Бельск. Выстралы з кулямётаў, вінтовак, выбухі і дым былі цікавымі дзеткам і дарослым. Увагу сабраных прыцягвала праца медсясцёр на полі бою.

— Многа часу было патрачана на падрыхтоўку да сённяшняга мерапрыемства, але варта было гэта рабіць, бо сённяшнія рэканструкцыі вельмі цікавыя і напэўна застануцца ў памяці сабраных, — сказала войт Бельскай гміны **Раіса Раецкая**.

Яшчэ да бельскага мерапрыемства выйшла «Бежанская газета», якая таксама выклікала зацікаўленне.

— «Бежанская газета» гэта выдавецкі эксперымент, — патлумачыў **Дарафей Фіёнік**. — Падчас нашага мерапрыемства мы прэзентуем таксама выставу «Бежанства. Супольная гісторыя», якая паказвалася ўжо раней.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Перафарматаванне і некандыцыя

Разумныя людзі вучаць, што дурны тон у журналістыцы — злоўжываць у тэкстах замежнымі словамі, тым больш у загалоўках. Але парушаю зараз гэтыя каноны, таму што ніяк я не змог падабраць адпаведных беларускіх слоў — выходзіла альбо неадпаведна, альбо зусім нелітаратурна і нават нецэнзурна.

Балота так званай выбарчай кампаніі на мінулым тыдні было ўсё ж істотна скаланутае некалькімі падзеямі. Цяжка вельмі характарызаваць удзельнікаў гэтага працэсу, каб абысціся без крайніх, рэзкіх і катэгарычных ацэнак. Тым больш толькі надзвычай лянівы не кінуў каменя за апошні час у беларускую дэмакратычную апазіцыю. Яна, з горам папалам вытрымаўшы ў 2010 годзе сапраўдны разгром з боку ўладаў, перажыла за наступныя амаль пяць гадоў заканамерны псіхалагічны крызіс, а таксама крызіс ідэалагічны. Да новых так званых выбараў дэмакратычная апазіцыя падышла з невыноснымі цяжарам паразаў і разгубленасці. І вось зараз выхад на волю палітычных вязняў, у першую чаргу Мікалая Статкевіча, даў новы імпульс для перафарматавання апазіцыйных сіл. Зрух гэты, пэўны штуршок, трэба ацэньваць з асцярожным аптымізмам, але гэта хоць нешта пасля гадоў невыразнай арыентацыі, сварак і нявызначаных пазіцый. Для тых, хто яшчэ не ведае, патлумачу, што ў Менску адбылася сустрэча і прэсавая канферэнцыя з удзелам экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, лідара нядаўна створанага руху „За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі”, таксама кандыдата ў прэзідэнты ў 2010 годзе Уладзіміра Някляева, сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі „Беларуская хрысціянская дэмакратыя” Паўла Севярынца і старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі. Звяжаючы, што ўсе гэтыя асобы ў розныя ступені, але былі рэпрэсаванымі і зазналі перaслед, аснова для новай кааліцыі дастаткова трывалая. Тым больш, што неадкладна пра падтрымку новай ініцыятывы заявіў палітычны эмігрант і былы палітвязень, лідар „Еўрапейскай Беларусі” Андрэй Саннікаў. Няма сумневу, што да новай кааліцыі далучацца і іншыя аўтарытэтныя асобы, такія, прыкладам, як Станіслаў Шушкевіч. Новая кааліцыя ўжо заявіла, што будзе дамагацца дэлегітымізацыі цяперашняй выбарчай кампаніі. Якія шляхі прывядуць да гэтага — сказаць цяжка, зразумела толькі, што выпрацавана цвёрдая пазіцыя апелявання да міжнародных структур з мэтай знешняга непрызнання „вырабаў-2015”.

У такой сітуацыі найбольш прайграла Партыя БНФ. У яе шэрагах не было адзінства ўжо тады, калі арганізацыя пастанавіла падтрымаць як кандыдата Тацццяну Караткевіч. Зараз жа бальшынёй галасоў Беларускі народны фронт на сваім чарговым сойме пастанавіў спыніць сваю падтрымку гэтай вылучэнкі. Гэта сваім парадкам выклікала чарговы падзел сярод пазіцый прадстаўнікоў партыі. Такая непаслядоўнасць напэўна прывядзе да змены ў кіраўніцтве партыі і да новых палітычных кампаній БНФ падыдзе не ў найлепшым стане.

Павесяліў па-сапраўднаму публіку Віктар Цярэшчанка — адзін з самых шэрых і цёняных прэтэндэнтаў у кандыдаты, пра якога ў Беларусі мала хто ведае. Цяпер будуць ведаць больш, бо ўсе яго адзінаццаць з паловай тысяч подпісаў, нібыта сабраныя ў Гродне, ужо афіцыйна прызнаныя несапраўднымі. Некандыцыя, так сказаць. Паводле заканадаўства за фальшаванне подпісаў можа быць пачата і крымінальная справа. А яшчэ Цярэшчанка заявіў, што яго спрабавалі атруціць морквавым сокам у адной са сталічных кавярняў. Усё гэта дадало фарбаў у клаўнаду дастаткова млявага працэсу.

Якую колькасць подпісаў і якой кандыцыі здаў штаб Тацццяны Караткевіч — мы не даведаемся, хутчэй усяго, ніколі. Найлепш для гэтай жанчыны будзе, канешне, нерэгістрацыя кандыдаткай у прэзідэнты.

Беларускі электарат (прабачце і за гэтае замежнае слова) па-ранейшаму жыве сваім жыццём і слаба цікавіцца, што адбываецца навокал. І ніхто не ведае, як дастукацца да сэрца і душы гэтага народа. І ці ёсць яны ўвогуле.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Дастаткова вар'яцтва

Варшаўская газета «Super Express» прарочыць чарговы канец свету. Так, газета! Гэта не памылка. Гэта не маючая сабе роўных у стваранні фактаў высмактаных з пальца штодзёнка, якая не заслугоўвае, каб называць яе інфармацыйнай газетай. Хіба што палічыць надзейным яе апісанне свету, падобнае таму, якое стварае ў сваім розуме хворы бедалага, пераканаы, што рэальнасць з'яўляецца проста праекцый яго пакутлівага мозга. Такім чынам, усё гэта сапраўднае настолькі, наколькі стваралася ў яго стомленай галаве. Усё, што за яе межамі — гэта ілюзія, фантазіі, сон-кашмар. Такое меркаванне — нічога новага. У філасофіі даўно сфармаваўся аналагічны погляд, пад назвай саліпсізм, які прапаведуе — інфармую за энцыклапедыяй Ляруса — што «спазнаваная рэальнасць з'яўляецца толькі комплексам адчуванняў, прадуктам самасвядомасці, чымсьці спантанным або створаным штучнай стымуляцыяй».

«Штучная стымуляцыя», верагодна, ключавое вызначэнне для разумення чалавечага шаленства, якое праяўляецца ў шматлікіх і надалей жывых тэорыях змовы. Пачынаючы ад тае, якая сцвярджае, што габрэі кіруюць светам або, альтэрнатыўна, масоны, праз нядаўна створаную «смаленскую», і канчаючы на адраджаючыхся як міфічны фенікс з попелу тэорый аб хуткім канцы свету. Усе яны здаюцца быць створаныя па той жа формуле. Цікава, што застаецца яна нязменнай на працягу многіх, многіх стагоддзяў. Толькі змяняецца яе форма, гістарычны антураж, неістотныя аздабленні. На самой справе, яго ўзор заснаваны на векавых чалавечых страхах, атавістычных комплексах, на першасным ашаламленні здабытай самасвядомасцю. Факт, самасвядомасць сябе ў гэтым бязмежным Космасе бытаў можа прывесці да вар'яцтва. Магчыма, адзіны спосаб прадухіліць гэта — штучнае стымуляванне мозга. Трэба дадаваць яму ўсё больш і больш новых ідэй, тэорый, поглядаў так, як хлеба страўніку і выспяткаў азадку. На самой справе, як чалавечае цела лянівее з-за адсутнасці хлеба і выспяткаў, так розум пачынае гніць без стымулюючых ідэй. Можна нават сказаць, што чым яны з'яўляюцца больш абсурднымі, тым больш прадухіляюць гнільныя працэсы.

На фоне вышэйшых адступленняў факт, што такая газета як «Super Express» — але не толькі яна — здабывае сабе верных чытачоў, ужо так не здзіўляе. Тым не менш, ахвотнае чытанне глупстваў, якіх на яе старонках шмат, як мышэй у егіпецкіх карах, здаецца, без школы для каго-небудзь, крайняй эксцэнтрычнасцю. Гэта праўда, што навейшага канца свету не высмакталі з указальнага пальца рэдактары штодзёнкі «Super Express». На гэты раз разгарэліся да чырвонага анлайн-форумы. За іх прыкладам са стараннасцю становжкі, якая, дарэчы, не мае і сарака ножак, паспяшаўся з ілжывай інфармацыяй «Super Express»: «Кажуць, паміж 15 і 28 верасня астэроід мае ўдарыць у Зямлю. Уяўленні катастрафічныя! Астэроід знішчыць Цэнтральную і Паўднёвую Амерыку, і, такім чынам, прывядзе да трагічных наступстваў для ўсяго свету. Ці гэта праўда? Ці наш свет праз месяц перастане існаваць?». Тут я хачу супакоіць чытачоў «Нівы», што, на думку прызнаных экспертаў у галіне астраноміі, «няма ніякай навуковай асновы і нават ценю доказаў, што астэроід ці іншы аб'ект трапіць у Зямлю ў гэты час». Варта прызнаць, што гэта супакойлівыя словы. Тым не менш, аўтарытэты аўтарытэтамі, а людзі і так ведаюць. Асабліва цікавымі з'яўляюцца каментарыі карыстальнікаў інтэрнэту ў адносінах да гэтага пытання. Дазвольце мне працытаваць некаторыя з іх. Нейкі Куба не адмаўляе пэўнасці канчатковага канца, але паводле яго слоў будзе гэта канец... Грамадзянскай платформы, і гэта адбудзецца менавіта 6 верасня, у дзень запланаванага рэферэндуму ў Польшчы. Іншы інтэрнаўт, Андрэй, хацеў бы перанакіраваць астэроід на Торунь. Там, на яго думку, сядзіць д'ябал. Адказам на гэта з'яўляецца голас Вальдэмара: «Канец ужо ёсць. Педзікі кіруюць светам і мы, нармальныя, не можам нічога зрабіць; забараняе нам паліткарэктнасць. Можа астэроід з'яўляецца добрай ідэяй?». Дазвольце мне звярнуцца да вышэйшых заўваг без каментарыя. Так, і да канца свету, які абяшчае «Super Express». Хопіць ужо гэтага вар'яцтва.

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Левы Сасна

Як толькі я паспеў згадаць тыдзень таму, якраз перад высылкай у друкарню папярэдняга нумара «Нівы», дасюлешні пасол Сейма ад СЛД Яўген Чыквін 24 жніўня ў горадзе Бельск-Падляскі абвясціў свой удзел у выбарах у Сенат з падляшскай паўднёвай акругі, якая ахоплівае Бельскі, Гайнаўскі, Сямятыцкі і Высока-Мазавецкі паветы (№ 61). Мае ён балатавацца з незалежнага Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Чыквін у Сенат», які, — як сказаў, — складаюць прадстаўнікі палітычных колаў, органаў мясцовага самакіравання, грамадства. Пераконваў, што «эканамічнае супрацоўніцтва з нашымі ўсходнімі суседзямі — Рэспублікай Беларусь, Расійскай Федэрацыяй і Украінай — можа і павінна стаць важным фактарам, які стымулюе развіццё прадпрыемстваў у рэгіёне (...). Прыязджаючых з-за нашай усходняй мяжы можа быць значна больш, але патрэбны дыялог і супрацоўніцтва, у тым ліку міжпарламенцкага вымярэння». Ён заўважыў: «Я перакананы, што гэта магчыма, каб атрымаць згоду беларускага боку запусціць бязвізавы рух у памежнай зоне, што забяспечыла б адчувальныя выгады для нашых грамадзян. У рамках Парламенцкай групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь, якой у бягучы перыяд з'яўляюся старшынёй, мы праводзілі дыялог па гэтым пытанні з прадстаўнікамі беларускай дзяржавы». Дадаў: «Мы павінны вярнуцца на расійскі рынак з нашымі таварамі, у прыватнасці, з сельскагаспадарчай прадукцыяй, што мела б вялікае значэнне ў сектары перапрацоўкі малака, такой развінутай у Высока-Мазавецкім павеце». Меў на ўвазе: «У будаванні добрасуседскіх, узаемавыгадных адносін павінны іграць важную ролю нярўрадавыя арганізацыі і хрысціянскія асяроддзі. Я буду падтрымліваць такія ініцыятывы». Дадаў, амаль у канцы: «Я глыбока веру, што ў гэтым мультыкультурным рэгіёне атрымаецца стварыць атмасферу прымірэння, пра якую так прыгожа сказаў прэзідэнт Анджэй Дуда на Святой Гары Грабарцы».

Адразу ж пасля яго заявы (чакаючы яе) падляшская Грамадзянская платформа дала заяву наконт неадназначнай яго падтрымкі: «У сувязі з рэкамендацыяй Форуму меншасцей Падляшша для кандыдатуры Яўгена Чыквіна на выбарах у Сенат з акругі № 61 ГП Падляшскага рэгёна вырашыла не вылучаць уласнага кандыдата ў гэтай акрузе. Гэтак жа, як чатыры гады таму ў сувязі з кандыдатурай Уладзімежа Цімашэвіча, хочам даць шанц кандыдату, які балатуецца з беспартыйнага камітэта і падтрымліваецца важнымі ў гэтай акрузе суполкамі меншасцей Падляшша». Што цікава, напярэдадні (у нядзелю 23 жніўня) да афіцыйнай публічнай дэкларацыі Яўгена Чыквіна аб балатаванні ў Сенат, перад некаторымі цэрквамі збіралі былі подпісы, неабходныя для рэгістрацыі яго выбарчага камітэта, а некаторыя святары заклікалі да гэтага падчас службы.

Тым часам 26 жніўня цяперашні дэпутат Сейма Аляксандр Сасна, пасля таго як ён не быў зноў уключаны ў спіс кандыдатаў ГП у Сейм (не даў яму сваёй падтрымкі ФМП, а ў адпаведнасці з яго ўказаннямі ў гэтым спісе Платформы цяпер апынуўся Адам Мусюк) і не хацеў з яе падтрымкай старацца за сенатарскі мандат, пасля перамоваў з мясцовымі лідарамі СЛД і ПСЛ пастанавіў: «Я вырашыў стаць кандыдатам са спіса СЛД. Гэты спіс дае мне больш шанцаў на перамогу».

Старшыня падляшскага СЛД Кшыштаф Біль-Ярузельскі пасля назаўтра адбытага пасяджэння Рэгіянальнай рады партыі сказаў: «Аляксандр Сасна апынецца на нашым спісе на трэцім месцы (чаргова за ім і цяперашнім дэпутатам Твайго руху Адамам Рыбаковічам — М. Х.)».

Сярод кандыдатаў, звязаных з беларускім і праваслаўным асяроддзямі, ад імя Аб'яднанай лявіцы на Падляшшы таксама балатуюцца СЛДоўскі актывіст маладога пакалення з Бельска-Падляшскага Аркадыюш Вашкевіч, былы беластоцкі радны Мікалай Міpановіч і былы ваяводскі радны Міраслаў Чыквін. Аляксандр Сасна апынуўся ў гэтым спісе на месцы першапачаткова адведзеным для Яўгена Чыквіна. „Людоўцы” прапанавалі яму месца за межамі першай тройкі (спіс адкрывае падляшскі маршалак і шэф мясцовых структур ПСЛ Мечыслаў Башко). Кандыдатам ПСЛ у Сейм таксама будзе беларус Мікалай Яноўскі. Падляшскае ПСЛ спадзяецца на перавышэнне 10-працэнтнага парога і нават на тры мандаты, але на самой справе, рэальным здаецца быць толькі адзін, якраз Мечыслава Башко. Старшыня Біль-Ярузельскі ў сваю чаргу спадзяецца, што Аб'яднаная лявіца дасягне падтрымкі нават у 12 адсоткаў: «Ліміт нашай кампраметацыі (СЛД — М. Х.) ужо скончыўся. Можа быць толькі лепш».

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Бежанства. Exodus

**Гэтае імпазантнае з размахам стаўленае на адкрытым паветры відовішча ўздоўж чыгуначнай лініі Саколы — Лапы ў цягніку з царскімі эмблемамі з часу Першай сусветнай вайны не было гістарычнай рэканструкцыяй, але — як казалі яго рэалізатары — тэатралізаваным «сном пра бежанства», у якім тое, што дакументаванае існуе нароўні з тым, што перастворанае памяццю. Інтэрактыўнае, амаль у тры гадзіны прадстаўленне пад адкрытым небам «Бежанства. Exodus» было пастаўлена толькі два разы (29 і 30 жніўня). Гледачы-бежанцы рухаліся па слядах продкаў, якія пад ціскам расійскай прапаганды сто гадоў таму у жніўні 1915 года ўцякалі нават у аддаленыя губерні Расіі, пакінуўшы свае хаты, якіх пасля вяртання праз некалькі гадоў з выгнання найчасцей ужо не было. Другая частка спектакля — «Бежанства. Лёсы» аб гісторыях вяртаючыхся бежанцаў мае быць паказана ўжо на сцэне беластоцкага драмтэатра ў лістападзе.**



За некалькі дзён да тэатральнай чыгуначнай вандроўкі дырэктарка тэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур, якая ахапіла відовішча рэжысёрскай апекай, пра прадстаўленне падчас прэс-канферэнцыі перад падзеяй сказала наступнае:

— «Бежанства. Exodus" з'яўляецца часткай паслядоўнай лініі рэпертуару нашага тэатра, датычнай гісторыі рэгіёна, месца, у якім ёсць тэатр. Спектакль узнік і таму, што ў гэтым годзе мінае сто гадоў з дня пачатку бежанства, а яно з'яўляецца белай плямай на карце гісторыі Польшчы і не было поўнасцю інтэрпрэтаваным.

Падкрэсліла:

— Мы, як тэатр і мастакі, забавязаны да таго, каб гаварыць аб бежанстве. Хоць прадстаўленне не з'яўляецца гістарычнай рэканструкцыяй, мы паспрабавалі паказаць гісторыю выгнання мільёнаў людзей з прымежных раёнаў у 1915-1921 гадах.

Удзельнічаючы ў сустрэчы з журналістамі падляшскі віцэ-маршалак Мацей Жыўна, адказны за культуру, у той час сцвярджаў:

— Гэтае прадстаўленне, несумненна, з'яўляецца падзеяй не толькі культурнай, але і грамадскай. Яна таксама мае адукацыйна-выхаваўчы характар. Бежанства не з'яўляецца прадуктам літаратурнай выдумкі. Такія падзеі адбыліся і сёння адбываюцца ў свеце. Такая драма, што адбываецца сёння і сто гадоў таму ў Польшчы павінны нас рабіць уражлівымі.

Сцэнарый відовішча напісала Дана Лукасінская, аўтарка канцэпцыі і тэксту раней стаўленай драмтэатрам «Антыгоны». Дакументальныя матэрыялы і ўспаміны пра бежанствы збірала на працягу двух гадоў:

— Мы хацелі звязаныя з бежанствам падзеі ўвесці ў гісторыю. Сама я сутыкнулася з гэтай тэмай толькі тады, калі пачала супрацоўнічаць з беластоцкім тэатрам (тры гады таму — М. Х.). Я заўсёды была зацікаўлена ў пытаннях ідэнтычнасці і гістарычнай памяці. У выпадку бежанства ўзнікае пытанне, ці было гэта выгнанне, ці эвакуацыя. Няма ў спектаклі «Бежанства. Exodus» аднаго героя, ёсць калектыўны.

У Саколы забіралі гледачоў з-пад тэатра на 5 аўтобусах на кожны спектакль. На месцы, на расцягваючымся ўздоўж пуцёў пляцы, трапілі на беларуска-тутэйшае вяселле і пачастунак каўбасой, агуркамі і гарэлкай. Ганаровае месца за сталом займала постаць ні то каталіцкага кардынала, ні то праваслаўнага епіскапа ў пупурным аблачэнні (Бернард Баня), які пасля з'явіўся ў фінальнай сцэне, на месцы прызначэння тэатральных бежанцаў — на прыпынку ў Лапах-Маскве. Нечаканая вясельная гульня была спынена выбухамі на полі насупраць, з якога паявілася група казакоў на конях, заганяючая ўсіх у цягнік. Раней, аднак, гледачы павінны былі прайсці праз палявы шпіталь і ўступіць у кантакт з параненымі і нават з адным апераваным. У канцы вясельнай сцэны з'явілася жывая ікона Багародзіцы (Агнешка Мажэйка-Шакоўская) з дзіцяткам, якая пазней на адной са станцый («Выганянне з вёскі»), у якой гледачы выйшлі з цягніка, ад'ехала некуды ў даль з кардыналам-епіскапам у велічнай павозцы, быццам бы пакінуўшы бежанцаў самім сабе, кідаючы ім на развітанне па-беларуску:

— Няхай Бог будзе з вамі, але я не магу!

Цягнік запавольваў ход па шляху, і вачам гледачоў паказваліся віды чалавечых трупаў, макет знішчанага дома або група дзяцей, якія спяваюць пад кіраўніцтвам святога Хрыстафора з галавой падобнай на сабачую — Рэпробуса, які, паводле легенд, быў гігантам і пераносіў паломнікаў праз раку. Пасля выхаду на адной з дзвюх станцый, размешчаных уздоўж шляху, трэба было пуцямі вярнуцца да цягніка пешшу і адчуць хоць на хвіліну цяжкасць вандроўкі бежанцаў, так, дарэчы, як і ў душным цягніку, у якім — на жаль, рэдка — акцёры (салдаты-стражнікі, сёстры міласэрнасці, жанчына з Каліша, габрэй гонены і тут так, як і раней з вяселля....) узаемадзейнічалі з аўдыторыяй. У цягніку мала дынамічна працягвалі тэатральную гісторыю, у якой, без сумневу, вялікае ўражанне зрабіла паяўленне царэўны Таццяны з некалькімі асобамі з яе двара, якая раздае бежанцам-гледачам кавалкі хлеба і святыя іконкі з выявай Хрыстафора-Рэпробуса, якая звяртаецца да іх на англійскай мове і адмаўляе паспешліва фрагмент малітвы. Кожны з пасажыраў меў жмут банкнотаўрублёў на хабары, хаця б праходзячаму па цягніку лекару. Аповеды пра лёс бежанцаў у «чыстым выглядзе» гледачы мелі магчымасць паслухаць на адной са станцый — іх лагеры, дзе праходзіла пахаванне аднаго з бежанцаў. Кіраўнік лагера (Кшыштаф Лаўнічак) тут прамаўляў:





— Людзі добрыя! Гэта ўжо два гады, як лёсы вайны і загад цара выкінулі нас са сваёй радзімы і бадзяемся па ўсім свеце як тыя пілігрымы. Кажуць і пішуць пра нас бежанцы!..

Перапыніў яму мужык-бежанец:

— Якія мы бежанцы?! Psiekrwie! А бо то мы самі бежалі?!. Прыгналі нас Рускія і іх казуны! Мы выгнаннікі, а не бежанцы! Я нікуды не бег!.

Іншы бежанец уключыўся:

— Добра кажа! Так гэта было! Выгналі нас!

У спектаклі былі выкарыстаны, у прыватнасці, мемуары апублікаваныя на вэб-сайце ведзеным Анэтай Прымакай і таксама іх у асноўным можна было пачуць па прыбыцці ў Лапы-Маскву, дзе гледачы пасля выхаду з цягніка дайшлі праз вароты, якія вядуць сімвалічна ў пралетарскую Расію. Сярод гледачоў-бежанцаў быў сусветнай вядомасці мастак Лявон Тарасэвіч з Валіл, які ішоў з іншымі гледачамі па пуцях, успамінаў:

— Меляшкі, адкуль была родам мая бабуля, давялося пакінуць усім. Я нават не ведаю, дзе яна была. І, каб было яшчэ цікавей, да выезду заклікалі бацюшкі. Пасля свайго вяртання прывезла яна цэлую торбу грошай, але ўжо яны былі няважныя. Я пасля імі гуляў у покер.

Іншыя гледачы сказалі нам адразу пасля відовішча:

— Мабыць, так задумалі аўтары, але мала дзеялася ў цягніку.

— Пастаноўка вельмі рэалістычная і перараканаўчая.

— Я практычна нічога аб бежанстве раней не ведаў.

З першапачатковага сцэнарыя Даны Лукасінскай у пастаноўцы асталіся шматкі. Відовішча звялося да ўварваных сцэнак, часам выклікаючы ненаўмысную пацеху ў гледачоў. Часам стварала ўражанне моцна недапрацаванага, як быццам выканаўцам пакінулі занадта шмат месца для імправізацыі. Гэтае перфарматыўнае відовішча спрабавала злучыць між сабою інсталяцыю, імправізацыі, хепенінг і тэатр. Прытрапіліся, аднак, тэхнічныя няўдачы і некаторыя гістарычныя недакладнасці, якія маглі б увесці ў няёмкасць, калі выказаць здагадку, што спектакль не быў гістарычнай рэканструкцыяй, як расійская песня ў выкананні аднаго з хароў пасля прыбыцця ў Лапы-Маскву, напісаная ў 1940-х гадах... Сцэнічнае афармленне падрыхтаваў пастаянна супрацоўнічаючы з тэатрам Яцэк Маліноўскі, а касцюмы — Агата Вонс, харэаграфію — Мацей Заклічынскі, а візуалізацыю — Павал Грэсь. Зайгралі ўвесь калектыў тэатра і больш за сто статыстаў. Па зваротнай дарозе ў Беласток, спецыяльна пададзеным чысценькім чыгуначным бусам, гледачы ва ўлётцы-праграме маглі прачытаць пра бежанства: «Прыменена была тактыка «выпаленай зямлі», якая мела перашкодзіць ворагу (немцам) у ваенных дзеяннях. Выгнаным / эвакуяваным / бежанцам цар абяцаў кампенсацыю за страчаную маёмасць пасля вайны. Слова не стрымаў. Разам з сям'ёй быў расстраляны бальшавікамі ў 1918 годзе. Выгнанае насельніцтва (бежанцы) вярталася ў Польшчу гадамі, з 1917 па 1937 г. Большасць з іх ніколі не дасягнула зямлі сваіх бацькоў, паміраючы ад абяссілення, хвароб і ў выніку тэрору пралетарскай рэвалюцыі». Далей прыведзены шэраг статыстычных даных, якія тычацца бежанства. Гэтая ўлётка-праграма была адзіным дадаткам да пастаноўкі, якая, несумненна, адыграла важную ролю ў працягваючымся адукацыйным працэсе пра бежанства ў Польшчы, увядзенні гэтай трагічнай тэмы нашай гісторыі ў публічны аповед.

«Бежанства. Exodus» быў паказаны ў момант, калі ў Беластоку працягваўся фестываль «Усход культуры. Іншае вымярэнне». Гэты спектакль не быў уключаны ў яго праграму, хоць упісваўся ў яе належным чынам, таму што — як сказала дырэктарка Карыткоўская-Мазур — не прайшоў праз адбор арганізатараў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгалоска на артыкул «Прафанацыя крыніцы» Ніва № 34 ад 23.08.2015 г.

Bielsk Podlaski dnia 25.08.2015r.

Mikołaj Kotelczuk
ul. Hołowieska 65
17-100 Bielsk Podlaski

Sz. P. Redaktor Naczelny
Eugeniusz Wappa
Rada Programowa Tygodnika „NIWA"
ul. Zamenhoffa 27
15-959 Białystok

Dotyczy: Artykułu zamieszczonego w Tygodniku „NIWA" wydanie z dnia 23.08.2015r.

Szanowny Panie Redaktorze!

W dniu dzisiejszym zapoznałem się z zamieszczonym w Tygodniku „NIWA" artykułem dotyczącym „Cudownego źródełka" na mojej posesji położonej we wsi Miękisze. Ze zdziwieniem dowiadywałem się o okolicznościach sprawy przedstawionych na łamach Państwa Tygodnika, jednak określam je z pełną stanowczością jako „co najmniej mijające się z prawdą", aby uniknąć użycia bardziej dosadnych określeń. Ze szczególnym zaskoczeniem dowiedziałem się z treści przedmiotowego artykułu że „...pozdejmowałem ikony z okolicznych drzew i zniszczyłem stary murowany krzyż.." Co zdanie, to i nowe odkrycie na temat stanu faktycznego sprawy. Pan Redaktor Aleksander Wierzbicki nie pozostawił na mnie przysłowiowej „suchej nitki" i to nawet bez dania mi prawa obrony. Zostałem przez Pana Redaktora aresztowany, osądzony i skazany, nawet przed rozpoczęciem jakiegokolwiek postępowania w sprawie. Na szczęście Pan Redaktor nie ma możliwości wykonania wyroku... . W tym miejscu chciałbym przedstawić kilka faktów, które rzucą może jakieś światło na sprawę opisywaną na łamach Państwa Tygodnika:

1. Zamieszczone w Tygodniku „NIWA" wydanie z dnia 23.08.2015r. treści mijają się z prawdą. Pan Redaktor Wierzbicki opisuje sprawę której rzetelnie nie zbadał, poprzestając jedynie na informacjach jednej ze stron.... jak się to ma do rzetelności dziennikarskiej i profesjonalizmu, wolę nie komentować tego dalej, gdyż musiałbym użyć słów co najmniej niecenzuralnych. Nikt nie próbował się w tej sprawie ze mną kontaktować, co można bardzo łatwo zweryfikować – biling, potwierdzenie nadania/odbioru listu? Nikt również nie próbował się ze mną skontaktować osobiście, chociaż w treści artykułu zostały ujawnione dane pozwalające co najmniej na bezbłędną identyfikację mojej osoby, mojego miejsca pracy, itd. Naruszenie Ustawy o ochronie danych osobowych chciałoby się rzec? Być może. Niewątpliwie ujawnione bez mojej zgody zostały istotne informacje na mój temat.
2. W sprawie działki i „cudownego źródełka" mogę powiedzieć jedynie że działkę dostałem w spadku po moich rodzicach. Odkąd pamiętam, a mam już 65 lat, nigdy nie była ona miejscem kultu religijnego, ludzie wracając z pola pili tam wodę i będą ją stamtąd czerpali długo po tym, jak niniejsza sprawa zostanie zapomniana. Nikt nikomu nigdy nie zabraniał pić tej wody i ja również nie zamierzam tego robić. Działka nie jest ogrodzona, wstępu w celu zaczerpnięcia wody nie bronię nikomu.
3. Jakiś czas temu – nie pamiętam już dokładnie kiedy rozmawiałem z kilkoma mieszkańcami wsi Miękisze. Rozmawialiśmy o możliwości ewentualnego odkupienia ode mnie działki której dotyczy sprawa. Zaproponowałem odsprzedanie zgodnie z wartością rynkową lub zamianę na działkę podobną. Moja propozycja została wyśmiana, dowiedziałem się tylko że „i tak zrobią co zechcą i nic nikomu nie udowodnię".
4. Od przełomu roku 2014/2015 ktoś zaczął na mojej działce dokonywać działań zmierzających do samowolnej budowy obiektów związanych z jakimś kultem. Ktoś samowolnie wstawił kręgi budowlane, w tym jeden bezpośrednio na źródełko a resztę porzucono w nieładzie obok. Naokoło przedmiotowego źródełka nieznana mi osoba ułożyła kilka palet, oraz zwieziono większą ilość nasączonych chemikaliami drewnianych podkładów kolejowych – wszystko to wrzucono na moją posesję narażając na zatrucie wodę zarówno w źródełku jak również w pobliskiej rzece, którą ono zasila. Pytałem o podjęte roboty mieszkańców wsi – nikt jednak się nie chciał do tego przyznać. W sprawie złożyłem więc zawiadomienie (w załączeniu) do Pana Komendanta Komendy Powiatowej Policji w Bielsku Podlaskim.
5. W wyniku postępowania wszczętego na skutek zawiadomienia o którym mowa powyżej Policja ustaliła, że dokonane na mojej działce prace nie są budowlą w rozumieniu przepisów prawa. Policja przeprowadziła oględziny i w wyniku przesłuchań świadków ustalono że „..przedmiotowa działka nie była i nie jest w zainteresowaniu parafian Narodzenia Świętego Jana Chrzciciela w Pasynkach...", zaś pierwszy krąg został umieszczony na mojej działce przez nieżyjącego już mieszkańca wsi (Pismo z Komendy Powiatowej Policji nr RsoW.256.2015 w załączeniu).
6. W dniu 18.08.2015r. Radio Białystok wyemitowało reportaż w tej sprawie w trakcie audycji „Pod Znakam Pahoni". W sprawie wypowiedział się między innymi proboszcz parafii Narodzenia Świętego Jana Chrzciciela w Pasynkach. Stwierdził, że nic nie wie o jakichkolwiek cudach, parafia wie, że działka stanowi własność prywatną i nie jest nią zainteresowana.
7. Nie usuwałem ikon o których mowa w artykule, nie niszczyłem również betonowego krzyża o którym mowa. Nie wiem kto może być za to odpowiedzialny, mogą to ustalić w razie potrzeby policja i prokuratura.
8. Nigdzie – ani w lokalnej prasie ani w księgach parafialnych nie rejestrowano żadnych informacji na temat cudów związanych ze źródełkiem na mojej posesji. Nie jest to w żadnym razie miejsce wyświęcone. Na przełomie lat 2014/2015 ktoś zaczął usilnie dorabiać ideologię do tego miejsca w celach mi nieznanych, aczkolwiek wyraźnie zmierzających do nieuprawnionego zawłaszczenia mojej działki. Na takie działania zgody wyrazić nie mogę i podejmę wszelkie prawem przewidziane środki w celu ochrony przed taką napaścią.

**W tym stanie rzeczy domagam się stanowczo:**

1. Wyjaśnienia sprawy i niezwłocznego zamieszczenia na łamach Tygodnika „NIWA" sprostowania i przeprosin – na pierwszej stronie.
2. Wzywam również do poinformowania mnie o terminie publikacji sprostowania i przeprosin w ciągu 7 dni od daty otrzymania niniejszego pisma.

Informuję również, że w przypadku braku odpowiedzi w wyznaczonym powyżej terminie, jak również odmowy przeprowadzenia wyjaśnienia sprawy i zamieszczenia sprostowania i przeprosin na łamach Tygodnika „NIWA", będę niezwłocznie dochodzić ochrony swoich dóbr osobistych na drodze postępowania sądowego, jak również wyślę stosowne pismo w sprawie do wszelkich instytucji nadzoru prasowego.

Mając na uwadze możliwość polubownego załatwienia niniejszej sprawy, pozostaję z poważaniem.

Kostelczuk Mikołaj



# У адказ

**Шаноўны Спадар Мікалай**

Вы сваім допісам пацвярджаеце тое, што людзі пра Вас гаварылі. Вам неяк не заўважылася, што ў маім матэрыяле не я выказваюся, толькі жыхары Мякіш і наваколля. А яны, нягледзячы на Вашы погляды, маюць права гаварыць і пра Вас, і пра Вашы паводзіны. А я лічу сваім абавязкам гэтыя выказванні абнародаваць, бо яны кранаюць важныя тамашняму асяроддзю справы, у тым ліку і адносіны да прыродных і духовых каштоўнасцей. Вам неяк не заўважылася, што разбіты крыж быў пастаўлены задоўга да таго, пакуль Вашы продкі сталі ўласнікамі грунту, на якім ён стаяў. Крыж з незапамятнага часу, верагодна, не быў занесены ў рэгістр помнікаў даўніны, усё ж такі ўласнікам такіх помнікаў варта ведаць Art. 110. Ustawy z dnia 23 lipca 2003 r. o ochronie zabytków i opiece nad zabytkami: „Kto będąc właścicielem lub posiadaczem zabytku nie zabezpieczył go w należyty sposób przed uszkodzeniem, zniszczeniem, zaginięciem lub kradzieżą, podlega karze aresztu, ograniczenia wolności albo grzywny. Zabytek — nieruchomość lub rzecz ruchoma, ich części lub zespoły, będące dziełem człowieka lub związane z jego działalnością i stanowiące świadectwo minionej epoki bądź zdarzenia, których zachowanie leży w interesie społecznym ze względu na posiadaną wartość historyczną, artystyczną lub naukową...".

Нібы-будоўля ж на крыніцы не была звязана з ніякім культам, бо ж хіба kręgi budowlane, kilka palet ці podkłady kolejowe не з'яўляюцца аб'ектамі пакланення. Бетонны круг з завершанай крыжыкам пакрыўкай быў пастаўлены дзеля менавіта таго, каб захаваць крыніцу ад якога-небудзь забруджання; цяпер, калі таго круга няма, можна ў крыніцу накідаць усялякай усялячыны. І што тады будзе значыць Ваша дэкларацыя: wstępu w celu zaczerpnięcia wody nie bronię nikomu?

Яшчэ раз інфармую, што я нікога да крыніцы не склікаў — людзі з'явіліся туды спантанна. Сабралася туды бадай дванаццаць чалавек і ўсе яны выказваліся на тэму прафанацыі крыніцы аднадушна. Хацеў я даведацца Вашых каардынат, але яны іх не ведалі, таму Вас туды не паклікалі, таму і я з Вамі не мог скантактавацца. Закон ахоўвае Вашы каардынаты не толькі ад Вашых суседзяў... Таму дзякую Вам, што Вы самі адгукнуліся на патрэбу справы.

Заходзіў я і на плябанію ў Пасынках, каб даведацца пра тамашнія цуды і аздараўленні, але нікога ў ёй тады не было. Усё ж такі — паводле мяне — цуды на крыніцы каля Мякіш былі, хаця яны не зафіксаваны канфесійнымі кнігаводамі. Бо ж там „нерукатворна" з'явіліся і прапалі іконы, „цудоўна" раструшчыўся памятны прашальны крыж і гэтак жа „нерукатворна" прапаў круг на крыніцы.

Іконы на крыніцах загадкава з'яўляліся здаўна, напрыклад, у Лясной-Падляшскай, Гадышэве ці Святой Вадзе каля Васількава; цяпер там санктуарыі. Калі б такое адбылося раней каля Мякіш, дык напэўна і там здаўна стаяў бы санктуарны комплекс з Крыжовай дарогай і пакутнымі прыпынкамі. А мясцовае самакіраванне аб'явіла б месца культурным паркам; такія паркі ўзніклі ў каля дваццаці гмінах Польшчы. Такія паркі арганізуюцца самаўрадамі згодна прыведзенаму раней закону, у прынцыпе тады, калі даюць магчымасць зарабіць дадатковыя грошы ў гмінныя бюджэты.

Дагэтуль, у кантэксце крыніцы каля Мякіш, не было мовы пра грошы. Але яны і тут важныя. Бо, паводле майго меркавання, не было б там ніякіх цудаў, калі б у Вас, спадар Катэльчук, не было грошай. А ў Вас ёсць маёмасць, як у святога Мікалая Цудатворцы з Мір Лікійскіх, і Вы, здаецца так як і Ваш славуты цёзка, мучыце сабе галаву, як тую маёмасць скапіталізаваць, на што расходаваць свой бюджэт — як прэзідэнт, прэм'ер ці ўсялякія іншыя чыны. Таму жадаю Вам здароўя, многа здароўя, вельмі многа здароўя — каб было яго ў Вас больш чым грошай.

**З павагай Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Татары адсвяткавалі Сабантуй

**У Крушынянах ужо дзявяты раз прайшло татарскае свята Сабантуй. Пасля малітвы ў мясцовай мячэці на ўдзельнікаў чакалі выступы калектываў з Беларусі, Літвы, Крыма ды Польшчы. Мерапрыемства, ладжанае з мэтай распаўсюджвання татарскай культуры, прыцягнула ў невялікую вёсачку сотні людзей з розных куткоў свету.**



Сабантуй у татарскай традыцыі адбываецца пасля сяўбы на палях, інакш вядомае як свята плуга. Самае важнае ў гэтым свяце заключаецца ў супольнай гульні аднавяскоўцаў, якія пасля цяжкіх палявых прац адпачывалі, радасна выкарыстоўваючы свабодны час. Як падкрэслівае Мар'юш Шагідовіч, Сабантуй гэта свята, якое свайго часу было забытае карэннымі татарамі Падляшша:

— Сабантуй так урачыста святкуем з 2007 года. Раней мы не падтрымлівалі гэтай традыцыі, забылі пра яе. Аднак сёння ўжо дзявяты раз сустракаемся ў Крушынянах, каб супольна гуляць і прыпамінаць важныя для тоеснасці мясцовых татараў абрады.

У той час, паводле традыцыі, маладыя татары мелі магчымасць прэзентаваць свае ўмеласці па верхавой яздзе на конях. Дзяўчаты вышывалі каляровыя хусты, якія вывешвалі на калкі, каб кожны мог падзівіцца таленавітасці ткачых.

У гэтым годзе, апрача стральбы з лукаў ці верхавой язды, для наведвальнікаў фэсту былі падрыхтаваны шматлікія конкурсы і паказы, сярод іншых, татарскую барацьбу. Таксама можна было прымаць удзел у мусульманскай малітве, якая прайшла ў мясцовай мячэці. Кожны ўдзельнік меў магчымасць паслухаць татарскія песні ў выкананні калектываў з Падляшша, Крыма, Беларусі і Літвы. Усе запрошаныя групы рэпрэзентавалі татарскую меншасць сваіх краін.

У гэтым годзе прайшлі кулінарныя майстар-класы пад кіраўніцтвам Джанэты Багдановіч. Кожны мог выпрабаваць сябе ў нялёгкім майстэрстве вырабу калдуноў. Удзельнікі фэсту мелі магчымасць паспрабаваць традыцыйныя татарскія стравы, у тым ліку славуты перакачэўнік — адмысловую булачку з некалькіх пластоў з мясам або сырам. Гэты прысмак занесены Еўрапейскай камісіяй у Спіс прадуктаў традыцыйных спецыяльнасцей.

Мерапрыемства праходзіла ў татарскай юрце Джанэты Багдановіч, якая папулярызуе татарскую культуру, галоўным чынам вяртаючы даўнія смакі.

— Сабантуй гэта свята, якое адбываецца там, дзе жывуць татары. Тут, у Крушынянах, на працягу дзевяці гадоў мы у той дзень гуляем разам. Гэта свята плуга, земляробчае свята. Пасля сяўбы татары весяляцца, інтэгруюцца адзін з адным і грамадскасцю. Гэта свята радасці, таму што мы разам. Я, аднак, з гэтага фестывалю хачу зрабіць штосьці больш. Я маю намер прадставіць нашу татарскую меншасць, мусульман, і, дарэчы, іншыя меншасці, якія заўсёды насялялі гэтую тэрыторыю і паказаць, як прыгожа гэтыя людзі жылі разам і паважалі адзін аднаго. Бог адзін. І сёння я хачу паказаць, што мы разам, — адзначыла Джанэта Багдановіч.

На думку Джанэты Багдановіч з году ў год штораз больш людзей прыязджае на Сабантуй у Крушыняны. Гэта не тольскі татары з суседніх краін і Польшчы, але перш за ўсё турысты, якім цікавы мясцовы арыент. Варта дадаць, што ў Крушынянах ці Багонніках турыстаў чакае шмат цікавага. Не толькі ад вялікага свята.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Хай Бог бароніць

Стукаю ў дзверы, праз акно бачу адпачываючага пад печкай старога мужчыну. Поўдзень, а ён ляжыць. Напэўна сумуе. Жонка памерла два гады таму назад. Жаль, добрая, разумная жанчына. Цяпер жыве сам. Раз на тыдзень прыязджае сын з Беластока, часам і дачка загляне.



Уладзімір Баранчук

Мужчына, не падымаючыся з канапы, кліча мяне жэстам рукі ў сярэдзіну.

У хаце незвычайная мужчынам чыстата і парадак.

— Люблю, калі ўсё на сваім месцы, заўсёды я такі быў, — тлумачыць.

У гасцінным пакоі штучныя і натуральныя кветкі, гэтыя апошнія задбаныя і сакавіта-зялёныя. Маю ўвагу прыцягваюць лялькі. Старыя, савецкія лялькі сядзяць нерухома на засцеленых капай пярынах, на шафе. Валодзева жонка іх любіла. Ад смерці гаспадыні ніхто нічога тут не мяняў, не перастаўляў. Здаецца ўсё, уключаючы лялькі, яе тут чакае.



Валодзя Баранчук нарадзіўся ў Азяранах-Вялікіх у 1929 годзе. Тут яго хата, любімы конь, могільнік, на якім спачываюць продкі і любоў ягонага жыцця — дарагая жонка.

— Ужо цяпер чалавек усё забывае, няма нічога, — адказвае запытаны пра гісторыю сваіх бацькоў і дзядоў.

Бацька Валодзі — Тамаш Баранчук нарадзіўся ў Азяранах-Вялікіх, маці Наташа з дому Станкевіч — у Плянтах, за Гуранамі.

— З Азяранаў-Вялікіх у Расію выязджалі ўсе. Казалі, што пазабіваюць, але толькі праваслаўных, каталікі былі ў пашане, таму засталіся. Пакарысталіся на нашай бядзе. Усяго ж у дарогу не забярэш, асабліва жывёлы.

Тамаш Баранчук папаў у Маскву. Было яму тады за дваццаць гадоў. Усю дарогу на возе, туды і назад, разам з братам Іванам і бацькамі Іванам і Хрысціняй. Цар прыняў іх як сваіх, трактаваў нароўні з расіянамі, але ўсё-такі жылі яны там як парабкі. Хрысціна і Іван аралі зямлю ў Падмаскоўі, прытуліўшыся ў тамашніх гаспадароў.

— Калісь было інакш, людзі паважалі адзін аднаго. Сёння хто б цябе ўпусціў у хату, а яшчэ з цэлай сям'ёй. У Другую сусветную вайну ў нас таксама ваеннапалонны быў. Жыў, пакуль вайна не закончылася. Потым вярнуўся на свой Урал.

Ніякіх грошай там не зарабілі, от толькі на пражыванне. Пару бязвартасных царскіх рублёў, прывезеных з сабой, можна было ў печку кінуць. Манеты Валодзя ў школу браў, каб пагуляць.

Здароваму, маладому Тамашу запрапанавалі пайсці на вайну альбо ў паліцыю, выбраў другое. У паліцыі, вядома, сказана-зроблена, але быў рад, што яго на фронт не паслалі, што не прыйшлося ваяваць.

З выбухам рэвалюцыі месца павагі і пашаны да чалавека пераняў страх. Ніхто не ведаў з кім гаворыць, а да таго стала голадна і холадна. Яны былі рады, што хаця назад вярнуліся. Праўда, не ўсе. Дзеда спадара Уладзіміра пахавалі на падмаскоўскім могільніку. А ў Азяранах-Вялікіх упраўляў ужо Пілсудскі. Ізноў завеяў вецер у воčы праваслаўным. Пачыналі з нуля. Тое, што пакінулі выязджаючы ў бежанства, расшабравалі мясцовыя палякі.

— Думалі сабе, а навошта ў лес па дрэва ісці, калі хату суседа можна спаліць. Стадолу, хлеў, усё паразбіралі. Нашу хату якраз пераняў жыд Бэры Вальнскі. Сам узяў. Было бяспраўе, хата пуставала, таму ён прыйшоў. Калі вярнуліся, жыд нават дзвярэй не хацеў ім адчыніць, але потым яго прагналі.

Усяго нажыліся, хай Бог бароніць.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Дэмаграфія Гайнаўскай гміны — на мінусе

На працягу двух апошніх гадоў у Гайнаўскай гміне лік жыхароў паменшаў на 145 чалавек. Зараз на яе тэрыторыі пражывае 4 036 асоб. Да найбольшых вёсак належаць: Дубіны (у ёй лік жыхароў паменшаў — ёсць 788, а было 809), Арэшкава (адпаведна 380—384), Навасады (260—290), Новае Беразова (275—283), Старое Беразова (278—282), Ліпіны (тут лік пабольшаў: ёсць 278, а было 273), Махнатае (204—213), Новае Корніна (177—184), Барысаўка (97—114), Дубічы-Асочныя (102—108) і Хітрая (99—101).

Скарачэнне ліку жыхароў бачна па там-сямапусцелыхпераважнадраўляных хатах ды заглухлых панадворках.

Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць Чыжыкі (цяпер 91 жыхар, а было 90), Рэпіска (81—84), Пасталова (75—79), Трывежа (тут зараз лік жыхароў пабольшаў: ёсць 81, а было 75), Катоўка (69 — 75, Пуціска (72—73), Сарочая Ножка (48—51), Барок (46—50), Тапіла (40—50), Васількова (44—46), Савіны Груд (42—43) і Бельшчына (39—43).

Самыя малыя пасяленні гэта Буды-Лясныя (4 жыхары), Галякова Шыя (6), Дубінская Ферма (7), Сахарэва (13), Скрыплева (16), Пераходы (20), Чарлёнка-Лясная (22), Лазіцы і Альховая Кладка (па 23) ды Смаляны Садок (25, а было 22).

Гайнаўскі ЗАГС выступае да Прэзідэнта РП па медалі для шлюбных пар, якія пражылі разам 50 гадоў. Амаль кожны год іх атрымлівае 9-14 пар. Варта дадаць, што мужчыны жэняцца з маладшымі ад сябе жанчынамі на 2, 3 і 5 гадоў. Былі выпадкі, што тая розніца была ў дзесяць гадоў.

(яц)

# У Супраслі мала дошак аб'яў

У Супраслі (Беластоцкі павет) пражывае 4,5 тысячы людзей. Ёсць тут парк і бульвары над ракою Супрасль. Зараз ахвотна прыязджаюць сюды на адпачынак і лячэнне турысты і курортнікі. На ўскраіне горада ды пад лесам (гэталясы Кнышынскай пушчы) знаходзіцца прыгожы санаторый „Кнея". Ёсць тут помнікі старадаўнасці.

У гэтай курортнай мясцовасці мала дошак аб'яў. Яны толькі пры некаторых вуліцах, між іншым, пры адной галоўнай вуліцы — Пілсудскага (пры ёй найбольш — тры), Беластоцкай (адна), Школьнай (адна пры бібліятэцы) і Пастарунковай (тут слуп з наклеенымі афішамі). Дошак аб'яў няшмат, усяго некалькі.

У цэнтры горада — каля скрыжавання вуліц Пілсудскага і 11 Лістапада здаўна „лепяць" аб'явы на фасадняй сцяне высокага драўлянага дома, а на вуліцы Целічанскай, паблізу крамы „Бядронка" — на плоце.

На адной дошцы аб'яў у канцы вуліцы Пілсудскага вешаюць многа плакатаў нават на тыя, што яшчэ з актуальнымі інфармацыямі. Тут патрэбная другая дошка побач дасюлешняй. Якраз на канцы вуліцы Пілсудскага знаходзяцца прадшколле і школа ды крыху ўбок і далей адсюль па вуліцы Незалежнасці — санаторый „Кнея". Улады горада павінны пра гэта паклапаціцца.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Прывітанне, творчая школа!

У новым навучальным годзе 2016/2017 вітаем Вас радкамі верша гімназіста **Аліка Семенюка** з Беластока:

*Крэсла,*
*Клас,*
*Вокны,*
*Дрэва,*
*Неба...*
*Цела на ўроку, думкі на канікулах.*

У паэтычных радках гарадць успаміны летніх прыгод. Тут таксама адчуваецца лёгкі сум па школе. Найбольш цягне да класных сяброў, з якімі заўсёды і ўсюды цікава.

Мы таксама засумавалі па шырокім сяброўскім крузе школьнікаў. Праўда, многія з вас праявілі звышактыўнасць на сайце «Сустрэчы Зоркі», дзе друкаваліся вершы і малюнкі сяброў, а самыя заўзятыя аматары конкурсаў усе канікулы дасылалі рашэнні крыжаванак і загадак. У якасці ўзнагарод яны атрымалі новыя мадэлі кашулек, кніжкі і каляраванкі пра птушак і раслін, кніжкі беларускіх класікаў, каляровыя алоўкі і запісныя кніжкі з беларускім арнаментам. Вельмі цешаць нас словы падзякі ад дзяцей і бацькоў, якія атрымалі ўзнагароды. Мы абяцаем, што далей будзем вышукоўваць для вас вартасныя і практычныя падарункі.

Як вядома, падарункі бываюць розныя. Як прыемна прачытаць у газеце пра свой клас, пра любімых настаўнікаў, пра слаўных выпускнікоў школы! Як кожны год, мы наведаем вашы школы, заглянем на вашы мерапрыемствы, напішам пра вашы поспехі, мары, ідэі і праблемы. Асноўнай справай для нас з'яўляецца прамоцыя людзей і месц, звязаных з беларускай мовай і традыцыяй. Шмат артыкулаў — і гэта з'яўляецца феноменам у рэгіёне — паўстае пры ўдзеле нашых чытачоў. Вашы размовы і фельетоны чытаюць дзеці і дарослыя чытачы «Нівы». Не менш цешаць паэтычныя дэбюты. Толькі цягам апошніх двух месяцаў у нас друкаваліся новыя аўтары: Міхась Сахарчук, Клаўдзія Галімская, Уля Падгаецкая. Зараз, на прывітанне школы, прапануем вершы гімназіста Аліка Семенюка, які атрымаў вылучэнне ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы, і летняе, казачнае апавяданне дзяўчат з Гарадка — Лены Сульжык і Олі Яроцкай.

***ЗОРКА***



Аляксандр СЕМЯНЮК
ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

***

Пішу, а не хачу,
Хачу, а не люблю,
Не люблю, а патрабую.
У канікулы па школе сумую,
У школе — па канікулах.
Усё кепска.

***

Сонца,
Возера,
Забава,
Сябры,
Дзяўчына,
Адзін скок,
Адна хвіліна.
Вялікі боль.
Памятка на ўсё жыццё.

***

Стаяць і маўчаць.
Растуць у сілу,
якой ніколі не выкарыстаюць.
Дапамагаюць людзям.
Людзі іх нішчаць.
Дрэвы — нашае жыццё.

## СЛЯДЫ ЛАПАК

**Кожны дзень вечарам, калі я ўжо ляжала ў ложку, пад маё акно прыходзіў зайчык. Стукаў у акно і чакаў, пакуль я выйду на двор. Тады ён браў мяне за руку і мы ішлі ў свет шырокі і нязведаны. Зайчык паказваў мне рэчы, якіх я раней не бачыла. Зялёная трава здавалася такой прыгожай, дрэвы нам усміхаліся як сяброўкі, а кветкі напаміналі жывыя істоты.**

**Ішлі мы, ішлі... аж зайчык расказаў мне пра сваіх знаёмых звяркоў. Я здзіўлялася, што іншыя звяры таксама працуюць. Зайчык апавядаў розныя казкі, а калі мы даходзілі да хаткі чараўніцы, ён раптам знікаў. Я не ведала чаму. Не разумею гэтага і цяпер. Я заўсёды вярталася дамоў адна. Па дарозе я думала пра зайчыка: што ён робіць днём, якія ў яго справы? Калі вярталася дахаты, хуценька лягала спаць. Мне сніліся прыгожыя сны.**

**Цэлы тыдзень зайчык не прыходзіў. У маёй галаве паяўляліся розныя здагадкі. Што з ім сталася? А можа нашае знаёмства гэта сон? І чаму ён знікаў каля поўначы ля хаткі чараўніцы? А калі чараўніца зрабіла з яго паштэт? Усё было дзіўным, я аднак мела надзею, што зайчык вернецца. Думала толькі пра яго. На кожным кроку я прыгадвала яго навукі: ён вучыў распазнаваць птушак, звяроў, называў грыбы, навучыў запаліць агонь. Ён апавядаў мне такія гісторыі, якіх не забуду да канца жыцця. На жаль, ён знік, толькі адна рэч асталася па ім — гэта сляды яго лапак на маім акне.**

Лена Сульжык, Оля Яроцкая — „Вокны Беларусі”

## Вершы Віктара Шведа



### Чакаю рэферэндуму

Малога Міколу
Запытала матка:
— Чаму сёння ў школу
Не йдзеш на заняткі?

— Рэферэндуму чакаю, —
Адказаў сынок лоўка. —
Ці шасцігодкі маюць
Хадзіць у школу зноўку?

### Доктар ад заразных хвароб

Запытаў свайго суседа
Усёведны Васілёк:
— Даражэнькі, хачу ведаць:
Чым займаецца сынок?

— Мой сыночак
доктар быццам
І філосаф душ людскіх.
— Як жа ж у яго лячыцца:
Ад хвароб мо заразных?

## УВАГА КОНКУРС! № 36-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 верасня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Пад звонкай хвояю іглістай,**
**Прабіўшы мох, як буравік,**
**Стаіць у верасе квяцістым**
**Лясное дзіва б......**

***

**Зайдзі ў гушчар**
**Да хвой шматзвонных:**
**І тут, і там, нібы цвікі,**
**Па шапкі ўбіты ў мох зялёны**
**Зялёныя м.......**

***

**У сасняку густым, смалістым —**
**Заглядзішся на цуд такі —**
**У беленькіх манішках чыстых**
**Стаяць фарсіста м......**

**(Кастусь Цвірка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 31-15: цыбуля, лісіца. Узнагароду, кніжку пра птушак «Dziuplaki», выйграла Паўліна Матвяюк з Беластока. Віншуем!**

# Быць прафесіяналам — штосьці рабіць, ісці далей…

*Інтэрв'ю з Вольгай Ахрук, журналісткай Радыё Рацыя.*




„Шпакоўня": ***— Што трэба рабіць, каб быць прафесіяналам?***

**Вольга Ахрук:** — Я журналісткай працую ўжо сем гадоў, але па прафесіі я біёлаг. Часта сустракаюся з прафесіяналамі журналістамі і заўсёды думаю, што мне да іх яшчэ вельмі далёка. Калі нейкі чалавек скажа, што я стала прафесіяналам, то мне здаецца, што на гэтым мая журналістыка канчаецца. Калі журналіст думае, што ён прафесіянал — нічога добрага і цікавага ўжо не напіша, не зробіць. Таксама думаю, што назва «быць прафесіяналам» абазначае штосьці рабіць, ісці далей, развівацца…

**Ш:** ***— Ці самі вырашаеце, якія будзеце рэалізаваць тэмы, куды паедзеце?***

**ВА:** — Гэта залежыць. Калі я раблю нейкі рэпартаж, тады сама выбіраю тэму. Аднак журналістыка ёсць падобная да іншых прафесій і тут таксама ёсць кіраўнік — ён можа даць нейкі загад або падкажа куды трэба паехаць.

**Ш:** ***— Што для Вас самае важнае ў інтэрв'ю?***

**ВА:** — Я думаю, што інтэрв'ю — адзін з больш складаных жанраў журналістыкі. Я сама мушу падрыхтавацца, напісаць пытанні і даведацца нейкіх рэчаў пра чалавека, з якім буду размаўляць. А калі ўжо адбываецца інтэрв'ю, то самае важнае, каб вельмі дакладна слухаць чалавека і ведаць пра што яго яшчэ запытаць. Часта самыя цікавыя рэчы выплываюць з самой размовы. Пра гэта трэба памятаць.

**Ш:** ***— Як Вы збіраеце інфармацыі пра людзей?***

**ВА:** — Ёсць многа спосабаў. Цяпер ёсць інтэрнэт і можна там чагосьці даведацца. Калі я хачу ведаць больш, то пытаю ў людзей, якія ведаюць чалавека, з якім мне трэба зрабіць інтэрв'ю. Часта таксама я проста еду да гэтага чалавека і сама з ім размаўляю.

**Ш:** ***— Вы родам з Гродна. Ці беларусы Падляшша розняцца ад беларусаў Гродзеншчыны?***

**ВА:** — Гэта цяжкае пытанне. Я чалавек з Гродна, але жыву тут, на Беласточчыне. Я думаю, што беларусы з Польшчы не адрозніваюцца ад гарадзенскіх беларусаў, я тут заўсёды адчуваю сябе як у хаце.

**Ш:** ***— Ці проста беларусам вывучаць беларускую мову?***

**ВА:** — Калі казаць пра маю асобу, то я не вывучала беларускай мовы ў школе. У маёй бацькаўскай хаце гаварылі па-руску. Аднак я пайшла ў школу, пачала вывучаць беларускую мову, захапілася ёй. Думаю, што такая сітуацыя здараецца ў многіх беларусаў.

**Ш:** ***— А што Вам найбольш падабаецца ў падляшскай кухні? Чаго няма ў Беларусі?***

**ВА:** — Тут вельмі падобная кухня, як у Беларусі, толькі іншыя назвы. Я вельмі люблю бігас, які ў Гродне называюць «тушаная капуста». Аднак я спрабавала страў, якіх няма ў Беларусі, я ела «памідаровы суп» і «журак». Яны мне вельмі пасмакавалі. Ведаю яшчэ пра «флякі», але іх не мела адвагі пакаштаваць…

**Ш:** ***— Дзякуем за размову!***

**ВА:** — Дзякую!

---

Ізабела БАРОЎСКАЯ
ПШ у Нараўцы

## Школа

Хадзіць у школу
Гэта трудная справа.
Я даўно гэта ведала,
Што гэта нялёткая справа.
Трэба вучыцца,
Слухаць старэйшых.
Штодзень пісаць і чытаць,
Нават вершы складаць!



---

# Беларускія дранікі

*Унікальны рэцэпт Людмілы Казлоўскай*

## Прадукты:

1 кілаграм бульбы
2 яйкі
3 лыжкі мукі
чорны перац
маяран
соль да смаку
1 цыбуля
густая смятана



## Спосаб падрыхтоўкі:

Бульбу і цыбулю пачысціць і сцерці, дадаць яйкі і муку, соль, маяран, чорны перац. Усё змяшаць. Смажыць на аліве або шмальчыку. Дранікі найлепш спажываць проста з патэльні з дадаткам смятаны. Смачна есці!

Рэцэпт запісала Юстына Марчук

---

# Польска-беларуская крыжаванка № 36-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32:** Ян, неба, шафа, мова, парус, Параска, ха, ара. Яша, пах, на, мара, флора, вус, ласка, ар, акіян.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Габец** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Szafa<br>Szkoła | | | | | | Róża | | Piękny<br>Sadza | | |
| | | | Krok | | Wzrost<br>Łódka | | | | | Aromat |
| Kula<br>Tło | | | | Kałuża<br>Jar | | | | | | |
| | | | Jeż | | | | | | | |
| | Utwór<br>Tak | Wat<br>Woda | | | | | Ród | | | |
| | Park<br>Wzrost | | | | | | | | | |
| | | | | Ankara | | | | | | |

№ 36 [06-09-2015]

# МАГІЧНЫ ЦЭНТР СВЕТУ (2)

Адным з удзельнікаў сёлетняга шаснаццатага Трыялога ў Крынках, арганізаванага пад лозунгам «Тутэйшыя», быў былы беларускі палітвязень, лідар Праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесь Бяляцкі**. Падчас аднаго з трох дыскусійных трыялогавых панэляў прадугледжваў:




■ Злева: Мікола Ваўранюк, Алесь Бяляцкі, Антон Мірановіч, Марыюш Машкевіч

— Лёс Беларусі будзе яшчэ вырашацца, пакуль немагчыма яшчэ сказаць, што Беларусь ёсць і будзе. Вельмі верагодным з'яўляецца варыянт, што будзе шэсць рускіх губерняў. Беларусь, можа, застанецца як дзяржава. Столькі, колькі мы можам накапіць інтэлектуальныя сілы і людзей, гатовых прынесці сябе ў ахвяру для Беларусі ў перыяд крызісу, які, несумненна, наступіць, настолькі будзе вырашаны лёс нашай Радзімы.

Тыдзень таму мы пісалі ў асноўным аб некаторых матывах панэлі па культуры і ўспомнілі пра літаратурны. У гэтай апошняй частцы **Ян Камінскі**, пісьменнік родам з Мазовіі, што пражывае ў Ярылаўцы, распавядаў пра сваё існаванне ў гэтым ягоным магічным месцы Падляшша:

— У Ярылаўцы я чужы. На пачатку, праз некаторы час, я быў у вёсцы прыняты, але, калі высветлілася, што я ерэтык, няверуючы, адразу закісла, а адзін нават абразіўся. Калі я выпусціў кнігу «**Książka meldunkowa**», гэта ўжо цалкам парушылася, таму што мясцовыя жыхары знайшлі ў ёй слова «кацап», якое з'яўляецца там неаднойчы ў адносінах мудрага з дурнем. Ёсць у паняцці тутэйшасці нейкі комплекс. Тутэйшасць гэта малая прастора. Хто ў ёй гаворыць не па-нашаму — чужы. Існуе вострая неабходнасць дадатковага выяўлення, што ў нас ёсць нешта каштоўнае: свая мова, пэўная аўтаномія. Гэта, аднак, абмяжоўвае, не хапае «свежага паветра».

Гродзенскі пісьменнік, журналіст і грамадскі дзеяч **Віктар Сазонаў**, спасылаючыся на канцэпцыю тутэйшасці ў Беларусі, сказаў, між іншым:

— Тыя, хто выходзяць з тутэйшасці і ідуць у беларускасць, мусяць аб тутэйшасці памятаць. У адваротным выпадку нараджаецца шавінізм. Сёння ёсць ужо ў Беларусі эліта літаратурная, палітычная... і гэта дае надзею на тое, што наша тутэйшасць будзе перараджацца ў беларускасць.

Народжаны ў Гайнаўцы беларускі пісьменнік **Міхал Андрасюк**, аўтар нядаўна выдадзенай кніжкі «Крыжык»:

— Тутэйшасць гэта, па-першае, патрыятызм, адданасць сваёй хаце, царкве і г.д. Чалавек прывязваецца да месца часта ў той жа час адмаўляючыся вызначыць сваю нацыянальнасць (...). Мясцовы камень заліваны палякамі бетонам не цалкам мёртвы, таму што калі яго падняць, заквітнее з-пад яго кветка, наша беларускасць. Кожны, хто находзіў беларусаў тут звонку, загадваў нам, каб вызначыць сябе і гэта нам абрыдла. Мы пабудавалі панцыр вакол сваёй тутэйшасці.

## Дзяржаўнасць гэта замала

Гісторык праф. **Антон Мірановіч** (як панэліст удзельнічаў пасля ў дэбатах па палітыцы) у дыскусіі ў гэтай частцы сказаў:

— Тутэйшасць для беларускага нацыянальнага руху часта кампраметуючая, але ў цяжкія часы, калі трэба было выбіраць паміж нацыяналізмам польскім, украінскім ці беларускім, тутэйшасць была тым, што дазваляла выжыць. Такі выбар нехарактэрны толькі для беларусаў. Гэта такія ўцёкі ў тутэйшасць. Цяпер, калі нас ніхто не праследуе, але аб'яўляючы сваю беларускасць можна страціць працу, і г.д. Лепш трымаць дыстанцыю.

**Міхал Андрасюк**:

— Вызначэнне сябе тутэйшымі адыходзіць Часцей можна пачуць: мы гаворым па-свойму. Гарадскія пачалі ствараць беларускую нацыю.

**Міхал Анемпадыстаў** падкрэсліў некалькі разоў (больш аб яго меркаваннях пісалі мы ў папярэдняй «Ніве»):

— Тутэйшасць мусіць ператварыцца ў беларускасць, таму што Беларусі не будзе.

Прафесар **Данута Завадзка** з Універсітэта ў Беластоку:

— Няма сэнсу асуджаць тутэйшасць, таму што яна перспектыўная. Можа не трэба з яе вырастаць, можа варта да яе дарастаць.

У частцы Трыялога пад лозунгам палітыка былы амбасадар Польшчы ў Мінску **Марыюш Машкевіч** пераконваў:

— Для мяне тутэйшасць з'яўляецца ўвасабленнем пэўных каштоўнасцей, нават калі яны вонкава выглядаюць як прагматызм ці нават канфармізм. Тутэйшасць беластоцкая перакладаецца на беларускую, якая знаходзіцца паміж дзвюма зацiскамі. З аднаго боку мы маем крэольскасць (тут азначае праблему малых народаў у адносінах з магутнымі суседзямі — М. Х.). З іншага боку, краёвасці (...). Беларусь дачакаецца сваёй поўнай дзяржаўнасці. У дачыненні да Беларусі, аднак, патрэбная большая далікатнасць

**Алесь Бяляцкі** нагадаў, што блізкі яму сучасны беларускі нацыянальны рух у Беларусі інтэнсіўна развіваўся на пераломе 80-х і 90-х гадоў. Быў ён замарожаны з прыходам да ўлады ў 1994 годзе — як назваў — савецкага беларуса, а менавіта Аляксандра Лукашэнкі:

— Тое што ён і яго каманда ў тыя 20 гадоў зрабілі, гэта не быў працэс фарміравання беларускага народа, толькі савецкіх беларусаў, такіх, якімі былі, калі Беларусь была часткай Савецкага Саюза, з некаторымі нязначнымі адхіленнямі. Вынікі гэтага трывожаць. У 1994 годзе ў беларускія школы ў Мінску хадзіла 54 адсоткі дзяцей. У цяперашні час гэта паўтара працэнта. На самой справе згорнута адукацыя ў вышэйшых навучальных установах, дзе ў літаральным сэнсе вучыцца трыста чалавек — гэта беларускія філолагі. Апошняе навучанне на гэтым узроўні адукацыі ажыццяўляецца па-расійску з некаторымі ўстаўкамі на беларускай мове або без іх. Дзесяць адсоткаў кніг у Беларусі выходзяць на беларускай мове, астатнія — на рускай мове. На радыё і тэлебачанні прысутны невялікі адсотак беларускай мовы, хоць беларускага кантэнта крыху можа больш. 95 адсоткаў праграм ідзе на рускай мове. Усе дзяржаўныя органы працуюць на рускай мове. Прытым беларускія ўлады геапалітычна арыентаваныя на Усход і, перш за ўсё, будуюцца чарговыя эканамічныя саюзы, як стварэнне Еўразійскага саюза — такой маленькай копіі Савецкага Саюза. Ужо павольна абрабоўваюцца ў ёй меншыя краіны. І толькі эканамічны крызіс, які склаўся ў мінулым годзе, ставіць пад пытанне функцыянаванне гэтага аб'яднання. У сваю чаргу сітуацыя ва Украіне: анексія Крыма і вайна ў Данбасе спалохала ўсіх: і ўладу, і апазіцыйныя сілы.

Заўважыў:

— Апошнія сігналы паказалі, што толькі дзяржаўнасць, без падмацавання нацыянальнай культуры, мовы, як выразнага і адкрытага яе ідэнтыфікатара, гэта недастаткова для развіцця нацыі. Маладое пакаленне беларусаў у цяперашні час разглядае Мінск як цэнтр свету. Гэта ўжо не Масква. Гэта, відавочна, вынік 25 гадоў незалежнасці, якую мае Беларусь, але не было на працягу гэтых гадоў працы ў плане культуры, умацоўвання нацыянальнай свядомасці, якая была зведзена да нуля.

## Беларускасць у халадзільніку

У пазнейшай дыскусіі **Алесь Бяляцкі** адзначыў:

— Час тутэйшых у Беларусі прайшоў. Ён скончыўся ў 1991 годзе. Цяпер беларусы фармуюцца як нацыя. Цяжка гэта ідзе, адбываецца так як з півам пастаўленым у халадзільнік — яно не спее. Стаіць, але мала-памалу, аднак, пакрысе набірае моцы. Гэта ўсё ж, халадзільнік, а не маразільная камера. Працэс працягваецца. Цяпер настаў час для фарміравання нацыянальных пытанняў, магчымасці для працы нейкіх нацыянальных, беларускіх ініцыятыў, лепшы чым гэта было 10-15 гадоў таму, улада ўключыла жоўтае святло (...). Цяпер мы бачым паўтор сітуацыі з другой паловы 80-х гадоў, калі палітыка пайшла ў грамадскі сектар і сёння рэальнае грамадскае жыццё палітызавалася. Палітыка як такая знікла. Палітыкі сталі генераламі без войска. (...). Лукашэнка гэта чалавек з савецкімі мазгамі. Такім быў, такім ёсць, і такім будзе. Ніколі не стане праводзіць нейкую нацыянальную палітыку ў інтарэсах беларускага народа. Тым не менш, ёсць магчымасць выкарыстаць гэта. Трэба нам наступаць, хоць прыйдзе час, што трэба будзе нам дзесьці і адступіць. А, можа быць, і не. У цяперашні час эканамічная сітуацыя імкліва пагаршаецца. Вялікая французская рэвалюцыя пачалася з таго, што не хапала хлеба. Невядома, што будзе адбывацца ў Беларусі праз год ці два.

Прафесар **Антон Мірановіч** спаслаўся на гісторыю беларускага руху ў Польшчы і ўспамінаў пра палітыку Другой Рэчы Паспалітай, Польскай Народнай Рэспублікі і Другой РП у адносінах да беларускай меншасці:

— Тутэйшасць гэта была таксама палітычная канцэпцыя. Падчас Другой РП не толькі цэнтральная ўлада, але і мясцовая аддавала перавагу палітыцы тутэйшасці. Пазбаўлены самаідэнтыфікацыі народ застацца масай людзей, якую можна падвергнуць паланізацыі і весці ў адносінах да яго асаблівую палітыку. І гэтая палітыка ў міжваенны перыяд была рэалізавана. Тутэйшасць была выкарыстана ў палітыцы дэнацыяналізацыі беларускай меншасці.

Згадваючы перыяд пасля 1989 года, сцвердзіў:

— Калі здавалася, што мы дасягнулі поўныя магчымасці і ёсць некаторыя вынікі, у выглядзе, скажам, выбарчых камітэтаў, свае мясцовыя ўлады, мы не змаглі гэтым скарыстацца і пайсці далей (...). Таго, чаго сёння не хапае, гэта беларускай самаідэнтыфікацыі ў большай групе, у масе (...). Стаіць вельмі важнае пытанне, асабліва на Беласточчыне, як выкарыстаць магчымасці і ператварыць тутэйшасць у беларускі нацыянальны рух, але не губляючы вялікага і каштоўнага багацця, якое прыносіць гэтая тутэйшасць для іншых (...). Перастаньма верыць, што некаму ў Польшчы залежыць на развіцці нацыянальных меншасцей і іх культуры. Няма ў Польшчы такіх цэнтраў ці палітычных сіл.

У рамках спадарожных Трыялогу мерапрыемстваў два вядучыя польскія мастакі прадставілі свае мастацкія праекты: Дамінік Лейман «Grodzenie» і Марыюш Таркавян «Крынкі — абрысоўванне». У музычнай частцы ля сінагогі выступілі, выклікаючыя шмат хвалявання, беластачанка Міс Год, гурт «Вагонаважатыя» з Украіны і «Агата» з Беларусі. XVI Трыялог праводзіўся пад патранатам маршалка Падляшскага ваяводства і фінансаваўся гэтай установай разам з Нацыянальным цэнтрам культуры, без удзелу, як у папярэднія гады, Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, асноўнай крыніцы фінансавання нацыянальных меншасцей у Польшчы.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Новае выданне

# Успаміны пра Ларысу Геніюш

**У суботу, 8 жніўня, у Зэльве каля помніка Ларысы Геніюш беларускі даследчык літаратуры і журналіст Міхась Скобла прэзентаваў кнігу „Духу магутныя чары...”, якая нядаўна выйшла ў мінскім выдавецтве „Лімарыус” у вядомай ужо серыі „Беларуская мемуарная бібліятэка”. Гэта кніга ўспамінаў пра выдатную нашу паэтку Ларысу Геніюш.**

Кнігу склаў, напісаў прадмову і каментарыі да яе літаратуразнавец Міхась Скобла, які шмат робіць і зрабіў дзеля ўшанавання памяці Ларысы Геніюш. Гэта дзякуючы яму шмат новага пра таленавітую паэтку даведаліся чытачы з кніг „Лісты з Зэльвы” (2012), „Асоба і час. Ларыса Геніюш” (2010), „Каб вы ведалі” (2005), „Выбраныя творы” (2000) і іншыя.

У кнігу „Духу магутныя чары...” складальнік уключыў успаміны пра паэтку тых асоб, якія яе ведалі, сябравалі, ці хаця б раз у жыцці з ёю сустракаліся. Гэта вядомыя ў Беларусі людзі — Алесь Белакоз, Масей Сяднёў, Уладзімір Калеснік, Данута Бічэль, Алесь Траяноўскі, Зянон Пазьняк, Мікола Купава, Сяргей Панізнік, Уладзімір Арлоў, Міхась Чарняўскі, Аляксей Пяткевіч, Вольга Іпатава, Адам Мальдзіс, Аляксей Марачкін, Здзіслаў Сіцька і многія іншыя. Усе яны пакінулі ці спецыяльна для кнігі напісалі свае згадкі пра Ларысу Геніюш.

Ёсць у кнізе і ўспаміны малавядомых у творчых колах людзей, але і яны таксама мелі непасрэднае дачыненне да сяброўскіх адносін з паэткай і яе мужам Янкам Геніюшам. Пра сваю суседку Ларысу Антонаўну цікава прыгадвае Зося Марцінчык (Каліноўская) — зэльвенская прыяцелька і суседка Ларысы Геніюш. У 1982 годзе паэтка падаравала ёй сваю кнігу з надпісам: „Дарагой маёй Зосі Марцінчык, што пры мне з дапамогаю. Зэльва, 1982”.

Зося Марцінчык смела распавядае пра зэльвенскіх суседзяў паэткі: „Ларысу ў Зэльве моцна праследавалі. Як куды ўдасца вывесці яе, у Мінск ці Гродна, так і пачынаюць тут правяраць. Яна і сама мне расказвала — пазнавала, што ў хаце за час яе адсутнасці пабывалі чужыя людзі. Марыя Пятроўна Парцяная, дэпутат пасялковага савета да яе была падасланая. Суседка Канюшэўская таксама — праз гарышча ў хату да Геніюшаў лазіла. Падкупленая была, па-відзімаму. Семярнічыха, суседка Ларысы з другога канца хаты, расказвала: неяк прыйшла дадому, расхранулася ўжо, заходзіць у спальню — сядзіць чалавек, прыборы наставіў, слухае, што за сцяной у Геніюшаў робіцца. Семярнік, можа, дазволіў, а яна ўзяла і выгнала. Нарабіла крэчу на мужа, каб больш такога не было... Валя Рудко, што была медсястрою ў Зэльве, так ужо дружыла — і палавічкі мыць брала, і ўсё на свеце. А сама ўсё дакладвала куды трэба...”.

Вось пад такім наглядам суседзяў і КДБ жыла Ларыса Геніюш у Зэльве. Праўда, не ўсе такія былі суседзі. Яніна Шматко прыгадвае і шкадуе, што „пераехаўшы з радзімы мужа ў Зэльву ў 1977 годзе, я не праявіла цікаўнасці і не пазнаёмілася з Ларысай Геніюш. Цэлых шэсць гадоў жыла ў адным мястэчку з чалавекам-легендай і не зацікавілася ёю. Шкада! Бачыла зрэдку ў крамах, любавалася яе інтэлігентным выглядам, яе гордай




паставай, уменнем прыгожа аздобіць адзенне вялікай хусткай-шаляноўкай (здаецца, без хусткі я яе і не бачыла). Падысці і загаварыць самой — такога, памятаю, і ў думках не ўзнікла: пра што я магла спытаць? А выпадкова сустрэцца сам-насам не пашчасціла...”.

Успаміны людзей, якія ведалі Ларысу Геніюш, вельмі шчырыя, адкрытыя і цікава чытаюцца. З іх паўстае вобраз жанчыны-змагаркі, жанчыны-паэткі, жанчыны-беларускі. Штогод 9 жніўня да яе ў Зэльву на дзень нараджэння прыязджала каля 40 чалавек. Міхась Скобла на прэзентацыі кнігі ў Зэльве прапанаваў уявіць, як такі дзень народзінаў праходзіў: „Вось Ніна Мацяш, прыехаўшы з Белаазёрска, спявае для Ларысы Геніюш сваю славутую песню „Калыханка маме”. Вось устае з Баранавічаў Пятро Рашэтнік, запявае сваім магутным барытонам „Пад звон чары поўнай станьма браты...”. Гэта быў іх гімн”.

Кніга ўспамінаў „Духу магутныя чары...” — гэта гімн беларускай паэтцы, якая заслугоўвае вялікай пашаны і павагі. Бяда ў тым, што час Ларысы Геніюш у Беларусі яшчэ не наступіў, не прыйшоў. Ён толькі паціху, па крупінцы вяртаецца да беларусаў. І вяртаецца кнігамі яе твораў, здымкамі, лістамі, успамінамі.

Прадмову да кнігі напісаў Міхась Скобла. У ёй я звярнуў увагу на тыя радкі, дзе аўтар прызнаецца, што сустрэчы з Ларысай Геніюш у яе хаце — гэта быў нейкі цуд, цуд пасвячэння ў беларусы, калі, напрыклад, „наведвальнік пасля гутаркі з Ларысай Антонаўнай выходзіў на вуліцу чалавекам іншай якасці”. А хіба гэта не цуд, калі аднойчы, пасля пабыўкі ў Зэльве, гісторык Мікола Ермаловіч пачаў пісаць вершы?

Успаміны пра паэтку дапаўняе другі раздзел кнігі — эпісталярны. А гэта лісты да Ларысы Геніюш, якія ў розны час ёй адрасавалі Кастусь Езавітаў, Юльян Сергіевіч, Васіль Захарка, Уладзімір Караткевіч. Васіль Супрун, Мікола Прашковіч, Алесь Траяноўскі, Пятро Марціноўскі, Аксана Сенатовіч, Юлія Бібіла, Іван Гнацюк, Язэп Найдзюк, Фёдар Янкоўскі, Вацлаў Пануцэвіч.

Палітычны і грамадскі дзеяч, сакратар ваенных спраў у першым урадзе БНР, генерал-маёр Кастусь Езавітаў (1893-1946) у лісце ад 15 красавіка 1943 года да паэткі выказваў спачуванні ў сувязі са смерцю Васіля Захаркі. Езавітаў піша, што ён не ведаў, што Захарка быў дзядзькам Ларысы Геніюш. А яшчэ генерал-маёр пісаў, што на Ларысе Геніюш ляжыць „абавязак парупіцца, каб Васіля Захаркі персанальныя і грамадскія архівы не загінулі, бо яны маюць надзвычайна важнае значэнне для гісторыі нашага Адраджэнскага Руху”.

У другім пісьме ад 18 красавіка 1943 года да Ларысы Геніюш Кастусь Езавітаў паведамляе, што „калі-небудзь з гонарам перавязём Васіля Захарку ў Беларускі пантэон у Менск, хаця ж і не скора яшчэ тое будзе!”.

А Язэп Найдзюк у пісьме да Ларысы Геніюш ад 2 траўня 1981 года паведамляў, што „Вы не павінны непакоіцца лёсам сына Юркі, нявесткі, унукаў. Ім жывецца добра. Праўда, Юрка крыху пахудзеў, крыху нервовы, але чуецца добра. Пераканаўся я ў гэтым, калі перад Вялікаднем быў у Беластоку і адведаў іх... У найбліжэйшым часе ў Беластоку выйдзе з друку маленькі зборнічак — 16 бачын — апавяданняў Юркі, друкаваных у дзвюх мовах — па-беларуску і па-польску. Выдае той зборнічак Клуб пісьменнікаў у Беластоку. Я бачыў ужо каркету гэтага зборніка. Апавяданні напісаны добра і цікава. Юрка цешыцца з гэтага, я — таксама...”.

У раздзеле „Dubia” у кнізе публікуецца артыкул Ніла Гілевіча „З рук Васіля Быкава”. Справа ў тым, што ў 1970 годзе Васіль Быкаў перадаў Нілу Гілевічу лагерныя вершы паэткі і машынапіс артыкула групы зэльвенскіх інтэлігентаў, землякоў Ларысы Антонаўны. Іхні артыкул быў інспіраваны публікацыяй Гілевічавага — на гэтую ж тэму, аб бядотным становішчы беларускай мовы ў Беларусі. І вось праз сорак тры гады Ніл Гілевіч перадаў гэты артыкул Міхасю Скоблу, які ён упершыню апублікаваў у кнізе. Артыкул ад імя зэльвенцаў, відавочна, пісала сама Геніюш.

У канцы кнігі Міхась Скобла апублікаваў свае гісторы з жыцця Ларысы Геніюш „Чайка з лётам арліным”, які вельмі пасуе да гэтай кнігі, падводзіць вынікі жыцця і дзейнасці мужнай паэткі. Жыццёвыя гісторыі складаюцца з невялікіх, але вельмі цікавых аўтабіяграфічных фактаў, якія датычаць жыцця Геніюшаў і іх лёсу. А яны пачынаюцца з раскулачвання Міклашэвічаў, з Залатой Прагі, дзе паэтка напісала дзве свае кнігі вершаў — „Ад родных ніў” і „Рукапісны зборнік” (1945-1947), якія пабачылі свет толькі ў 1992 годзе ў Лондане; з газеты „Раніца”, дзе на яе старонках паэтка апублікавала каля сотні вершаў; з Другога Усебеларускага кангрэса, у якім паэтка не ўдзельнічала; з чэхаславацкага грамадзянства, якое не абараніла Геніюшаў ад Гулага; з дэпартацыі з Чэхаславакіі без права вяртання ў краіну; з суда ў Менску, дзе Ларысу Геніюш асабіста дапытваў міністр дзяржбяспекі БССР Лаўрэнцій Цанава; з архіва БНР, які патрабаваў Цанава ад паэткі; са сталінскіх лагераў, дзе паэтка і яе муж адбывалі 25 гадоў; з вяртання на Бацькаўшчыну; са зборніка „Невадам з Нёмана”, які пабачыў свет, дзякуючы Максіму Танку і Уладзіміру Караткевічу; са „Споведзі” і з сяброў, з куфэрка Быкава і з Геніюшаўскага крупніку; з „Песняроў” і з пахавання. А таксама з факсімільнага выдання першага зборніка Ларысы Геніюш „Ад родных ніў”, які аўтару гэтых радкоў і Міхасю Скоблу разам з Валянцінам Дубатоўкам удалося выдаць у 1995 годзе ў Слонімскай друкарні накладам 3000 асобнікаў...

Пра ўсё гэта чытачы даведаюцца з выдатнай кнігі памяці пра народную паэтку Беларусі Ларысу Геніюш „Духу магутныя чары...”, якую хочацца чытаць і перачытваць, думаць і асэнсоўваць лёс вялікіх змагароў за нашу Бацькаўшчыну.

Сяргей ЧЫГРЫН

---

*Кацярына СЯНКЕВІЧ*

## *Вывучаю адзіноту*

*

*Я вывучаю на памяць адзіноту*

*я хачу знайсці*
*ў маёй душы спакойную*
*паверхню чыстай вады*
*валодаць пазачасавай*
*прыгажосцю сэрца*

*— я вывучаю на памяць адзіноту*

*

*сістэма ўнутранай раўнавагі*
*не атрымліваецца.*
*рэкамендуецца абнаўленне*
*да папярэдняй версіі*
*праграмнага забеспячэння.*

*гэтак я скачваю старыя*
*песні зноў*
*яны загіпнатызуюць абманам*

*я хвілін дзесяць*
*буду шчаслівай*

*

*сказаў ёй што яе любіць*
*жадае убачыць ў бігудзі*

*верыў у каханне*
*без узаемнага спазнання*
*публічна прызнаваўся*
*да свайго кахання*

*прыватна пазбягаў з ёй кантакту*
*не прызнаваўся да гэтага факту*

*падазраваў тэндэнцыі*
*псіханелагічныя*

*

*не верыш ў мяне паўсядзённа*
*верыш у мяне ад свята*

*усе астатнія дні падманамі*
*рэжаш скуру веравання*
*ў мае магчымасці*

*у дні што мяне кахаеш*
*я арыгінальная*
*а ў дні калі не кахаеш*
*псіхічна нерэальная*

*калі мяне любіш*
*любіш маю душу*
*а калі не любіш*
*тлумачыцца мушу*
*адкуль ўзяла цябе*

*

*вера ў чатырохлістае*
*шчасце*
*хоча пажэрці мяне*

*сустракае самое*
*суцяшае*
*знаходжу дваццаць злотых*

*магічныя*

*

*калі ты схаваеш*
*чорны пыл правапарушэнняў*
*і бразгатанне мух*
*грэх твой памножыцца*

*скажы, што здарылася*
*хоць ведаю боль*
*рыфму адзінокай пакуты*
*заглушанай музыкай*

*я быў побач цябе*
*калі ты была адной*
*слёзы з гарачага твару*
*ў студню горкую*
*праліваў з табой*

*праверыў ці вернешся*
*з брудным сумленнем*
*на ачышчэнне*

*ці гэта толькі*
*імгненне*




# ЯК У ШЭКСПІРА

У пятніцу раніцай, 28 жніўня, пабачыў я на тумбе побач аўтобуснага прыпынку Пагодная/Жаромскага афішу Беларускага грамадска-культурнага таварыства пазбаўленую змесу. Западозрылася мне, што нехта злосна замаляваў змест аб'явы. Чарговую афішу пабачыў я побач прыпынку Васількоўская/Траўгута — там усё было як трэба: аб'ява пра Мастацкую сустрэчу Беласток-Гродна. Прыглянуўся я гэтай аб'яве. Выканана яна з дзвюх аркушаў паперы: на большай было агульнае абрамленне з інфармацыяй пра Таварыства, а на меншай, якая была наклеена пасярэдзіне большай — дэталёвая інфармацыя пра мерапрыемства. Побач прыпынку Каперніка/Бэма вісела чарговая разнавіднасць аб'явы: амаль поўнасцю абарваная меншая аркуша са зместам, якая трымалася асноўнага падкладу толькі адным ражком, паказваючы такім чынам толькі пазбаўлены зместу свой задні бок.

Сама ідэя такой выканаўчай развязкі падаецца быць разумнай, скалькаванай з прыроды, дзе кветачка (тара) чакае, аж у адпаведную пару сядзе на яе матылёк і напоўніць зместам (нета). І ў Таварыстве прыгатавана шматлікая агульная „тара", у якую ўкладваецца патрэбную на канкрэтнае мерапрыемства колькасць інфармацыі „нета", бо такая развязка напэўна эканоміць сродкі. Толькі што гэтая эканомія аказваецца празмернай, бо, мабыць, эканомлены быў яшчэ і клей, якім злучаліся абедзве часткі. У гэтым выпадку быў прыменены слабы клей, які слаба змацаваў кемлівую задуму, у выніку чаго інфармацыю пра мерапрыемства нейкі гарэзнік мог лёгка адклеіць, а можа нават яна сама абарвалася пад павевам ветру. А можа абодва элементы аб'явы былі выкананы з такой якаснай паперы, якой нават клей не бярэ... У агульнасці — як у жыцці, дзе празаічны Рамеа звязваецца з лірычнай Джульетай, а пасля атрымліваецца драма, калі пара расклейваецца або знутры, або „нехта трэці" расклейвае яе звонку.

Як бы там не было, сумнавата было глядзець на пустыя афішы арганізатара масавых беларускіх мерапрыемстваў. Можна толькі спадзявацца, што хто хоча хадзіць на беларускія мерапрыемствы, яго такія шэкспіраўскія афішы не выведуць у поле.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# Выступае Міхал Скепка

23 жніўня гэтага года Міхал Скепка, адзін з найлепшых польскіх тэнараў, Марына Гаравая (сапрана) і яе муж Уладзімір Гаравы (тэнар) ды камерны аркестр з Гродна (Беларусь) выступілі на канцэрце ў амфітэатры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет). У той дзень стаяла прыгожае летняе надвор'е і паслухаць знакамітых спевакоў сабралася даволі многа людзей. А яшчэ пэўна таму, што оперны артыст Міхал Скепка — наш зямляк. Ён нарадзіўся ў вёсцы Пасекі каля Семяноўкі ў Нараўчанскай гміне. Дзякуючы свайму таленту, спявак выступае на сцэнах айчынных (у Лодзі і ў Варшаве) ды замежных опер і тэатраў (між іншым, у Нямеччыне).

Міхал Скепка захапляўся спевам, будучы вучнем пачатковай школы ў Семяноўцы. Затым спяваў у беларускім хоры ў Беластоку і ў Цэнтральным мастацкім калектыве Войска Польскага.

Падчас канцэрта оперныя спевакі выступалі сола, у дуэце і трыо. Яны цудоўна, вытанчана выканалі лепшыя творы вядомых у свеце оперных класікаў. Спявалі па-італьянску неапалітанскія аператы ды па-польску оперы Станіслава Манюшкі і Караля Шыманоўскага. Іх моцныя галасы несліся далёка-далёка па ўсім наваколлі. Слухачы папрасілі іх праспяваць адну песню на біс. Апрача акампанементу для спевакоў гродзенскі аркестр іграў венгерскія танцы і інтэрмецца. Канцэрт усім спадабаўся.

На заканчэнне паўтарагадзіннага канцэрта Міхал Скепка сардэчна падзякаваў войту Нараўчанскай гміны Мікалаю Павільчу за запрашэнне оперных артыстаў у Нараўку.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

IMAGO.BY

# http://imago.by

Што рухае людзьмі, якія збіраюць разнастайныя старадаўнія рэчы? Хутчэй за ўсё гэта жаданне адчуваць нейкае дачыненне да гісторыі, прага да яе вывучэння і захавання. Здаецца, менавіта гэтыя прычыны сталі галоўнымі для ўладальнікаў сайта „Імаго. Старадаўнія карты і гравюры", калі яны яго распрацоўвалі, а потым адкрывалі для інтэрнэт-карыстальнікаў.

Калі мы набярэм на сваім камп'ютары адрас **http://imago.by**, то перад нашымі вачыма адкрыецца даволі цікавае выяўленне старадаўніх малюнкаў. Пераважаючы колер на сайце — брудна-жоўты, які характэрны для старой выцвіўшай паперы, і гэтая акалічнасць адразу стварае дзіўнае ўражанне — нібыта адкрыў перад сабой нейкую старадаўнюю карту ці гравюру.

„Падчас доўгай, часам дэтэктыўнай працы мы адкрылі наноў гэтую непадступную краіну — Беларусь. Запрашаем і цябе ў гэтую займальную вандроўку ў нашае слаўнае мінулае. Большасць выяў можна спампаваць, таму калі што спадабалася — бярыце і карыстайцеся сабе на здароўе. Спадзяемся на станоўчую адзнаку і абяцаем далейшае паступовае напаўненне сайта", — пішуць невядомыя ўладальнікі „Імаго" на галоўнай старонцы.

Ніжэй пад гэтымі словамі месяцца карты і гравюры, якія тэматычна падзелены на некалькі калекцый. Выйсці на калекцыі знаходзяцца таксама з левага боку цэлага выяўлення. Іх назвы не могуць не прыцягнуць увагі аматараў старых выяўленняў — напачатку там ідуць прозвішчы мастакоў Лювэрня, Орды, Каменскага, а потым з пазначэннем „Карты" — „Сарматыя", „ВКЛ", „Рэч Паспалітая", „Беларусь", „Еўропа", „Свет" і гэтак далей да партрэтаў і выяў разнастайных гістарычных асоб, грошай і гарадоў. Дарэчы, на старонцы „Гарады" размешчаны старадаўнія краявіды Гродна, Мінска, Смаленска, Магілёва, Брэста, Оршы і Вільні.

Выклікаць зацікаўленне можа і рубрыка „Падзеі". Там распавядаецца, у прыватнасці, пра алічбоўку выяўленчых твораў Антонія Каменскага аб Белавежскай пушчы, картаграфічны майстар-клас, візуальныя вобразы гістарычнай памяці.

А вось рубрыкі „Артыкулы" і „Абвесткі" маюць не зусім зразумелае прызначэнне. У першай няма нічога, і гэта пры тым, што сайт быў створаны, згодна пададзенай на ім інфармацыі, яшчэ два гады таму. У другой жа распавядаецца, якім чынам трэба дасылаць абвесткі на сайт, каб яны былі апублікаваныя. Здаецца, што такая інфармацыя больш падыходзіць да рубрыкі „Кантакты", што ідзе апошняй, але там мы знаходзім падрабязны расповед пра сайт і яго сэнс існавання.

„Нягледзячы на распаўсюджанае меркаванне, у нашых музеях і прыватных калекцыях ёсць дастаткова каштоўных і нават унікальных графічных твораў. Толькі пабачыць іх альбо атрымаць копію — задача не простая. Замежныя архівы, музеі, бібліятэкі, крамы антыкварыяту спяшаюцца напоўніць інтэрнэт якаснымі копіямі сваіх экспанатаў, пры гэтым доступ да іх найчасцей бясплатны. Калі вы валодаеце цікавымі графічнымі творамі і разумееце важнасць адкрытага доступу да іх, мы будзем рады размясціць іх на сайце, незалежна ад таго, збіраецеся вы іх прадаваць ці не", — пішуць уладальнікі „Імаго", абяцаючы пры патрэбе даць карыстальнікам неабходную кансультацыю ці нават выслаць сканы большасці прадстаўленых матэрыялаў.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Легендарны паўстанец, ганаровы грамадзянін Грэцыі



# 175 гадоў з дня нараджэння Зыгмунта Мінейкі

Упершыню пра легендарнага Зыгмунта Мінейку я пачуў ва ўніверсітэце ад нашага выкладчыка Барыса Клейна. Гэта быў захапляльны аповед пра чалавека незвычайнага, нават авантурнага лёсу, асобу сапраўды неардынарную і таленавітую.

Нарадзіўся Зыгмунт Мінейка 5 верасня 1840 г. у вёсцы Балванішкі на Ашмяншчыне непадалёк мястэчка Баруны. У 1969 г. Балванішкі саветамі былі перайменаваны ў Зялёны Бор. Вядома, што вучыўся ён спярша ў Віленскай гімназіі. З гэтага перыяду захавалася гісторыя, калі навучэнцы складалі прысягу цару Аляксандру ІІ. Мінейка ў час цырымоніі на падпісным лісце пакінуў прыдуманае прозвішча і такім чынам лічыў сябе вольным ад гэтай прымусовай прысягі. Потым наш герой вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. Напярэдадні збройнага чыну разносіў сярод насельніцтва «Гутарку старога дзеда» на беларускай мове, якую склаў хутчэй усяго Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і якая была надрукавана ў беластоцкай друкарні. Мінейку высачылі і ён быў змушаны выехаць за мяжу. Урэшце апынуўся ў італьянскай Генуі, дзе Джузэпэ Гарыбальдзі адчыніў вайсковую школу для маладых выхадцаў з зямель былой Рэчы Паспалітай.

Калі надышоў час вызвольнага паўстання 1863 года, Мінейка вярнуўся, спярша быў у атрадзе Марыяна Лягневіча, пасля сам стаў палявым камандзірам, паўстанцкім ваенным начальнікам Ашмянскага павета, меў псеўданім Мацей Баравы. 15 чэрвеня 1863 г. атрад Мінейкі быў разбіты каля мясцовасці Расолішкі. Яго камандзір захоплены ў палон і прыгавораны да смяротнага пакарання. Заплаціўшы хабар, удалося змяніць прысуд на 12 гадоў катаргі ў Сібіры на Нерчынскіх капальнях. Але Мінейка і не думаў скарацца. У высылцы ён стаў адным з кіраўнікоў палітычных катаржанаў. Гісторыя ж яго ўцёкаў заслугоўвае асобнага гістарычнага рамана. На адным з этапаў Зыгмунт бярэ сабе імя памерлага сябра, які быў засуджаны толькі на пасяленне. Паведаміўшы канвою пра сваю „смерць", ён пасяляецца ў Томску. А пазней пад выглядам сібірскага купца трапляе на прыём да пецярбургскага генерал-губернатара і дамагаецца для сябе замежнага пашпарта.

За мяжой Мінейка ў 1868 г. скончыў акадэмію генштаба ў Парыжы, але не захацеў ваяваць у складзе легіёна ў Алжыры. Таму ў 1891 г. ён пераехаў у Грэцыю, удзельнічаў у Балканскай вайне з Турцыяй за Крыт. Менавіта ён арганізаваў захоп турэцкай фартэцы Яніна, што прынесла грэкам бліскучую перамогу. Вызначыўся Зыгмунт Мінейка і як інжынер-праектант. Славу яму прынесла будаванне дарог і мастоў. Удзельнічаў ён таксама ў археалагічных экспедыцыях, адна з якіх завяршылася сенсацыйным адкрыццём храма Зеўса ў Дадоне, пра які пісаў яшчэ Сакрат. Іншымі яго захапленнямі былі этнаграфія і калекцыянаванне. Калі ж надышла пара першых алімпійскіх гульняў сучаснасці ў 1896 г. у Афінах, асвятляў спаборніцтвы як сапраўдны рэпарцёр.

Зыгмунт Мінейка — ганаровы грамадзянін Грэцыі. У гэтай краіне ён ажаніўся з Празерпінай Манарыс, іхняя дачка Зоф'я — жонка Георгіяса Папандрэу-старэйшага, вядомага грэцкага палітыка. Адпаведна Андрэас Папандрэу, яшчэ адзін папулярны палітык — унук Мінейкі.

Памёр Зыгмунт Мінейка 27 снежня 1925 г. у Афінах. Пра яго на землях старажытнай Элады ведаюць многія, памяць захоўваецца ў грэцкіх музеях. У Беларусі пра славутага продка-ліцвіна інфармацыі вельмі мала.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# „Васілёчкі” на міжнародным фестывалі






Трапіць на Міжнародны кулінарны фестываль „Мотальскія прысмакі”, які адбыўся 8 жніўня ў Моталі непадалёк ад Пінска, няпростая справа. Аднак „Васілёчкам”пашанцавала. Нават спякотнае надвор’е і 260 кіламетраў ад нашага Бельска не было нам перашкодай. У сяброў па дарозе кідаліся ў вочы чысціня і парадак. На скрыжаванні Гомельскай дарогі прывіталі нас вялізныя саламяныя лялькі, якія запрашалі на свята.

У вёсцы Моталь, якая налічвае 7 тысяч жыхароў, панаваў святочны выгляд. Цэнтральная вуліца, не менш кіламетра, абстаўленая была сталамі з дашкамі крытымі кукурузай. На іх толькі скнара нічога не купіў бы. Тут было ўсё — ад глінянага свісцёліка да вялікай дубовай бочкі для піва. Трэба памятаць, што гэтую вёску ведаюць не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі. Тут ад вякоў жывуць добрыя і працавітыя людзі. Яны славяцца сваім рукадзеллем — як рамяством, так і кулінарыяй.

На свята было запрошаных каля 5 тысяч гасцей. Святкаванне пачалося карагодам па вёсцы. Наперадзе неслі прыгожыя, багата ўпрыгожаныя сёлетнім ураджаем, вянкі. Далей з песнямі і танцамі ішлі калектывы. Хор „Васілёчкі” быў ганаровым госцем фестывалю. Для нашых харыстаў была гэта радасць бязмерная. Прыгожая сцэна засланяла велізарны двухпавярховы дом культуры, а ён у сваю чаргу зусім закрыў ад вуліцы дагледжаную прыгожую царкву з 1788 года.

У праграме ўдзельнічалі 24 вакальныя калектывы. Да гарачага дня чарговыя градусы прыбаўляла хваляванне. Цудоўная шматлюдная публіка, прафесіяналы вядучыя і нашы два выхады на сцэну. Аўдыторыя прыняла нас з вялікай увагай, цеплынёй і бурнымі апладысментамі. Пасля канцэрта ў натоўпе на вуліцы можна было пачуць шчырыя словы падзякі за выступленне. Гэта вялікая радасць нашым харыстам.

Хочацца нам яшчэ раз падзякаваць усім арганізатарам цудоўнага мерапрыемства за запрашэнне і ўзнагароды. Жадаем здароўя і поспехаў у Вашай далейшай працы. Перадайце Вашым дзецям усё тое, што вы робіце!

❖ **Тэкст і фота Уладзіміра ВЕСЯЛОЎСКАГА**

# У Чаромсе новы лекар

Ад некалькіх гадоў падапечныя Гміннага асяродка здароўя ў Чаромсе хадайнічалі за новага лекара. Заставаўшамуся на пасадзе лекару-пенсіянеру не пад сілу было справіцца з паўтаратысячным лікам пацыентаў. У час яго адсутнасці, па прычыне водпуску ці хваробы, не заўжды падсылалі з Гайнаўкі лекара на замену. Цярпелі ад гэтага пацыенты. Справа доўжылася больш чатырох гадоў. Праблема абмяркоўвалася раднымі на сесіях Рады гміны. Гайнаўскі ЗОЗ даў аб’яву ў інтэрнэце. Безвынікова. Сёлета войт сказаў, што лекар усё-такі будзе. І факт здзейсніўся. З днём 10 жніўня адышоў на заслужаны адпачынак, пасля дзесяцігадовай працы ў Чаромсе, сямейны лекар Анджэй Лагуна. На трохгадовы кантракт пагадзіўся лекар Пшэмыслаў Паўлючук. Як прызнаўся мне ў час размовы, перш за ўсё яму спадабалася Чаромха. Як у далейшай працы пакоцяцца справы і ці лекар прадоўжыць кантракт — пакажа час.

**(ус)**

## Па-сяброўску! /Анна САДОЎСКАЯ, Валілы-Двор/

*Ёсць на карце свету цудоўная мясціна.*
*Гэта родная мая старонка — Гарадоцкая наша гміна.*
*Тут гадоў нямала адбываецца імпрэза гэта,*
*свойская забава — «Сяброўская бяседа!»*
*Гэй, «Сяброўская бяседа», у Барыку пад голым небам,*
*гэй, «Сяброўская бяседа», з «Прымакамі» гуляць трэба!*
*Па-сяброўску заспяваем, па-сяброўску загуляем.*
*Будзя — чарка на пасашок і салёны агурок,*
*будзя дзядзька-беларус, што ў яго пасівеў вус.*
*Хай культура беларуска*
*расцвітае як вясною ў садзе грушка.*
*Вялікія бравы і многая лета*
*арганізатарам і спонсарам за гэта,*
*што нам забаву зафундавалі*
*і цяжка папрацавалі.*
*Ну, ужо хваціць, ужо канчаю,*
*усіх сяброў шчыра паздраўляю —*
*гэта я — Анка з Двара,*
*што рыфмамі сыпле як з рукава...*
*Гэй, «Сяброўская бяседа», гуляць трэба, гуляць трэба!*
*Гэй, «Сяброўская бяседа», гуляць сёння трэба нам.*

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. плыве ў венах, 2. лірычны верш з чатырнаццаці радкоў, 3. папулярная фарба для фарбавання валос, 4. вадкасць, якая выступае са скуры разагрэтага цела, 5. вавілонскі заканадавец з 18-га стагоддзя да н.э., 6. той шчаслівец, якога нехта выбраў, 7. земляроб, які ўзорвае раллю, 8. „круглая” гадавіна, 9. Віктар, французскі літаратар (1802-1885), 10. Паола Кальяры, народжаны ў Вероне італьянскі жывапісец (1528-1588), 11. жаночае паліто свабоднага пакрою ў... Анны Рамантоўскай.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | | | | |
| 2 | 3 | | | | 4 | | | | | 5 | |
| | | | | | 6 | 7 | | | | | 8 |
| | | | | | | | | | | | |
| 9 | | | | | | | | 10 | 11 | | |

Адказ на адгаданку з 33 нумара

Боль, бук, бюро, гуд, дзень, дзюба, Ілі, опера, перац, пік, соль, Уж, цень.

Рашэнне: **Не будзь салодкі, бо пераліжуць, не будзь горкі, бо пераплююць.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юстыне Іванюк** з Гайнаўкі і **Міхалу Байко** з Беластока.


Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.


# 06.09 — 12.09

**(22.03. — 20.04.)** Самотны Баран няхай інтэнсіўна шукае сваёй паловы — мае шанц спаткаць партнёра на ўсё жыццё. Усё што ішло няправільна, зменіць свой бег. Многа змен у сямейным жыцці. Паспяхова пазмагаешся і пераможаш, бо будзеш моцны і прыцягальны. Будзеш мець адвагу паставіць на сваім і пайсці сваёй сцежкай. Поспех у творчых дзеяннях.

**(21.04. — 21.05.)** Сустрэне цябе мілы сюрпрыз. У каханні незвычайныя атракцыёны. Не траць часу не малаважныя справы — камусь з сям’і патрэбна твая дапамога і падтрымка. Сур’ёзна падыдзі да сардэчных нямогласцей, адразу ідзі да лекара. Можаш страціць пару кілаграмаў. Плануй, ажыццяўляй амбітныя планы; невялікім коштам можаш шмат дасягнуць.

**(22.05. — 22.06.)** Не паддайся ахвоце парушаць прынцыпы і законы, бо наробіш сабе праблем. Мусіш пільнавацца, з кім сустракаешся, бо можаш апынуцца «на языках». Ненайлепшая форма, дык адпачывай, рэнегеруйся, не паддавайся сумненням. Увесь верасень добры для аднаўлення здароўя, на збіранне сіл. Часцей прабывай сярод людзей. Заінвеструй у сябе, грошы знойдуцца.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш адчуваць сябе бадзёра і молада. Пазітыўнае стаўленне да свету карысна паўплывае на тваё здароўе. Маеш права на сваю думку. Не дай сябе пераканаць да таго, чаго не хочаш. Атачаць цябе будуць сімпатычныя, зычлівыя і бескарыслівыя людзі. Можаш шмат зарабіць, але хутка тое можаш выдаць. Не бяры работы дахаты!

**(24.07. — 23.08.)** Можаш мець высокія прыбыткі. Рабі тое, што дае табе прыемнасць, да нічога сябе не прымушай. Толькі не злуйся, бо твае старанні могуць абярнуцца ў нішто. Будзеш мець многа сілы, будзеш здольны да хуткай і глыбокай рэгенерацыі. Але пільнуйся пры хваробе шчытавідкі і кішак — адразу бяжы да доктара. Вельмі сумленна выконвай свае абавязкі на працы.

**(24.08. — 23.09.)** 5-8.09. могуць павялічыцца пачуццё адчужанасці, горшы настрой; не бяры на сябе зашмат, суцішыся. 7-11.09. хтосьці можа выкарыстаць твой запал для сваіх мэт. Таксама могуць прыгнесці цябе хатнія абавязкі, толькі з часткай з іх справішся. Не спускай дзяцей з вока. Мусіш пільнавацца ад кантузій і скалечанняў. Час ненайлепшы і на доўгія паездкі. На поспехі таксама прыйдзецца пачакаць.

**(24.09. — 23.10.)** Зможаш ачараваць кожнага. Нават людзі, якія ведаюць цябе здаўна, будуць пад уражаннем ад тваёй асобы. Але не будзеш у найлепшай форме (аж да 23.09.). Някепскі час для наладжвання новых знаёмстваў (аж да 25.09.). Не пакуйся ў неадназначныя сітуацыі сярод сяброў. Сінгл у верасні не здабудзе вялікага кахання. 7-11.09. не нагавары зашмат сваім дзецям, каб іх не пакрыўдзіць.

**(24.10. — 22.11.)** Да 8.09. мноства прыемнасцей і кампанейскіх атракцыёнаў. Ніякая імпрэза не павінна абысціся без цябе! Прыліў энергіі і добрых думак. Але 7-11.09. можаш зрабіць пару нязручнасцей, паспрачацца з раднёй, улезці ў скандал са сваякамі або суседзямі; вельмі пільнуйся ад злодзеяў! Але не знеахвочвай да сябе нікога. Паявяцца цікавыя знаёмыя, з якіх хоць адзін стане тваім блізкім сябрам. Папраўві фінансавую сітуацыю, беручы прапанову ад знаёмых. Не аб’ядайся!

**(23.11. — 22.12.)** Прымай важныя прафесійныя задачы, настаўленыя на поспех, 5 да 8.09. — будзеш моцны і пераконваючы. Глядзі рэальна на новых знаёмых, не ідэалізуй іх. Горшыя вітальнасць і настрой. Дбай аб свае насавыя пазухі і горла. На працы не адставай. Новай работы ў верасні хутчэй не знойдзеш.

**(23.12. — 20.01.)** У трывалай пары адчуеш сябе бяспечна. У пачуццях добры час. Дома завіраванні, але не прынясуць чагосьці благога. Надасі добры кірунак хатнім справам. Добра перанясеш усе нямогласці, але асабліва змарзлюхі няхай пільнуюць свае суставы і косці. Фінансавыя поспехі паявяцца хутка. 6-11.09. рэалізуй нават шалёныя задумы!

**(21.01. — 19.02.)** 6-10.09. будзеш асабліва прадпрымальны, можаш падпісаць вельмі карысную дамову. Будзеш самаўпэўнены, чароўны. Сярод сяброў і сваякоў будзеш радасны, незалежны і поўны задум, акалены прыязнымі і інспіруючымі людзьмі. Старайся не стрэсавацца. У верасні цябе дацэняць.

**(20.02. — 21.03.)** Сачы за прапановамі, каб не страціць магчымасці вялікага заробку! 5-7.09. урэшце пазбудзешся негатыўных эмоцый. Будзеш спакойны і бяспечны. 5-8.09. плануй важныя перамовы, вызначэнні і сустрэчы. 6-10.09. сумленна працуй. 7-11.09. не расакрэчвай планаў. Аж да 23.09. прыйдзецца табе пазмагацца з прыгнечанасцю, а цяпер яшчэ і са сваімі вантробамі; не рабі ніякіх эксперыментаў з дыетамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (12)



Валя ўсё вырашыла ў адзін міг, аднак, згодна этыкету патрыярхальнай старонкі, яна спытала яшчэ ў мужа-прымака:

— Ты згодны?

— Ну, калі трэба дапамагчы, дык трэба, — адказаў ён паслухмяна.

З сужонствам Валяй і Васем я пазнаёмілася ў начным магазіне. Набліжалася поўнач і трэба было вырашыць пытанне начлегу. У час турыстычнага сезона ў Свіцязі ўсе месцы ў пансіянатах былі заняты. Разумеючы бязвыхаднае становішча, Валя запрасіла мяне і яшчэ трох маіх сяброў дахаты.

— Шкада людзей, каб поначы блукалі!

Праз пяць хвілін мы ўжо былі ў белай мураванцы, пабудаванай на краю сяла ля лесу. Гаспадыня адступіла найлепшыя пакоі, прыздобленыя пальмамі, дыванамі і пуховымі падушкамі. А сама, разам з мужам, пайшла начаваць на сена.

* * *

У Свіцязі, мала хто з мясцовых вылежваўся ў час турыстычнага сезона. Тут стараліся выкарыстаць кожную хвіліну і магчымасць ды падзарабіць на летніках. Нашы гаспадары таксама не вылежваліся на сене. Калі я прачнулася ў пяць раніцы, на панадворку панаваў рух. Ад боку летняй кухні даходзілі духмяныя пахі смажаных бліноў і свежага сочыва з чарніц. Здалося, жанчыны рыхтуюць сняданак. Тым часам у хатцы адбывалася масавая прадукцыя пончыкаў. Разам з Валяй завіхалася яе маці, бацька даносіў ваду з калодзежа і дровы, а Вася сартаваў пончыкі ў пакеты. Здзівіла мяне мабільнасць і энергія сям'і. На кухні панаваў дзелавы, вясёлы настрой. Пасля чатырох гадзін сну, усе выглядалі свежымі і задаволенымі з жыцця.

— А што прыснілася на новым месцы? — на добры дзень спытаў мяне гаспадар.

Я паспела прыгадаць сон, калі ў мае рукі сунулі яшчэ гарачы пончык. Смакоцце было падрыхтаванае на хатняй смятане, яйках, масле і чарніцах са свіцязскага лесу. Ну, аб'ядзенне, проста не расказаць, не апісаць.

— А вы пад вяселле рыхтуецеся, ці як? — спытала я.

— Не, не! Гэта на продаж...

У восем раніцы Валя загрузіць пакеты з пончыкамі на ровар і паедзе на возера. Да абеду прадасць увесь свой смакавіты тавар турыстам. Апеку над кватарантамі, то-бок мной і сябрамі, возьме ў свае рукі энергічная Валіна маці.

Я спытала ў яе, ці ведае парадак набажэнстваў у мясцовым праваслаўным манастыры.

— Мы — пяцідзясятнікі, — адказала жанчына, — але пачакайце, я пазваню сваёй свасе. Яна да іх ходзіць, дык пэўна ўсё ведае.

Спадарыня Маруся дастала з кішэні свайго фартуха мабілку. Цягам пяці хвілін усе пытанні былі высветлены.

У глыбі панадворка красавалася драўляная забудова: хлявы, клуня, шпіхер, драўляная хатка, перароблена на летнюю кухню. Панадворак напамінаў дагледжаны скансэн, сярод якога хадзілі жывыя куры і козы. Зацікавіў мяне партрэт, прыбіты на сцяне хлява. Разам з драўлянай архітэктурай прамаўляў як кадр з мінулага.

— А гэта мой *чалавек*, — гаспадыня-сеніёрка прамяніста заўсміхнулася. — Калісь ён у калгасе вісеў, а зараз, калі калгас ліквідавалі, мы забралі яго дахаты. Такая памятка засталася... Ой, не фатаграфуйце, мы ўжо такія старыя.

* * *

Ужо з самога рання над возерам увесь пляж быў абложаны аматарамі купання і загарання. Настрой раскошы падбівалі прылаўкі з рыбай і сувенірамі на рынку, які знаходзіўся па другім баку дарогі ад пляжа. Уся дарога была бязладна абстаўленая машынамі, з якіх трэцяя частка мела беларускія нумары. Тут абавязваў адзін прынцып — хто першы, той лепшы.

Маё месца для загарання было таксама выпадковым, затое лепшым. Ля берага знаходзіліся залежы глінкі, якой мазаліся дзеўкі і дзядзькі, дзеткі і маладзёны. Я таксама абшмаравалася свіцязскім балотам, адчуваючы ад усёй працэдуры задавальненне і палёгку. Усё гэта, разам з месцам для загарання, было дармовым і агульнадаступным. Не менш вабіў пясчаны бераг, які цягнуўся да кіламетра ў глыб возера. Свіцязь — самае глыбокае возера Украіны, з-за чаго называюць яго «ўкраінскім Байкалам». Прыблізна пасярэдзіне знаходзіцца роў глыбінёй у 58 метраў, які з вышыні самалёта напамінае цёмнае бяздонне. Гэта там, паводле легенды, меў знаходзіцца затоплены горад. На дне возера таксама знаходзяцца валуны, якія называюць «Скітскімі горамі».

Сучасных турыстаў вабіць празрысты колер вады з вялікай прымессю серабра. Слава вады была вядомай ужо ў міжваенны час:

— За Польшчы ў Свіцязі жыў пан, — апавядае мясцовы селянін Уладзімір. — Гэты пан напаўняў бочкі вадой з возера і адсылаў іх у Варшаву. Каб паненкі пакупаліся. Ад нашай вады нават варшавянкі станавіліся прыгажэйшымі...

На шчасце Уладзімір не быў міфаманам. Ён скептычна ставіўся да натоўпаў турыстаў і наракаў на браканьерства.

— Вы хоць не думайце, што гэтыя ўсе вугры і ракі на рынку з нашага возера. У нас можа якія плоткі яшчэ захаваліся. А то ўсё жывое браканьеры электратокам забілі.

— Дык адкуль тая рыба на рынку?

— Гэта не наша. Яе прывезлі дзесьці з-за Кіева.

Уладзімір, калі гаварыў «дзесьці з-за Кіева», меў на думцы цэлую Азію, уключна з Кітаем. Ён таксама быў упэўнены адкуль на рынку з'явіліся ракі:

— Ракі ў нас з Беларусі, там іх яшчэ не перабілі...

* * *

У сучасны момант Свіцязь яшчэ называюць «малым Крымам». Якраз сюды хлынулі патокі турыстаў, якія раней адпачывалі на Чорным моры. Масавы турызм дае сціплы прыбытак найбольш прадпрымальным сялянам. У генах мясцовых жыве вялікі страх перад вадой. Ажно да XX стагоддзя возера падтапляла мясцовасць. Найбольш трагічным аказаўся 1887 год. Тады ў возеры настолькі хутка паднялася вада і заліла прыбярэжныя сялібы, што здавалася, яшчэ хвіліна і сяло патоне. Напалоханыя сяляне рушылі да памешчыка Драгамірава (ён тады быў уласнікам Свіцязя), каб той дазволіў пракапаць канал да суседняга возера Лукі. Атрымаць згоду не было проста, памешчык баяўся, што разам з вадою ўцячэ рыба, якую толькі што развёў у возеры і патраціў на гэта вялікія грошы. Аднак, у абліччы вялікага гора соцень людзей, ён саступіў, даў згоду выкапаць канал. На працу выйшлі ўсе жыхары навакольных сёлаў і за адну ноч прakапалі роў даўжынёй у тры кіламетры. Дзякуючы каналу, вада панізілася на чатыры метры і сяло ўцалела.

Страх звязаны з вадой жывы ў снах мясцовых людзей. Жыхары наваколля Шацка баяцца знікнення азёр. Усё з-за блізарукай эканамічнай палітыкі ў савецкія гады, дзе цалкам праігнаравалі водную сістэму ў рэгіёне. За беларускай мяжой працавалі шахты, пасля якіх засталіся глыбокія катлаваны. Зараз іх глыбіня перавышае глыбіню навакольных азёр. Гідролагі апасаюцца, што ўсе «Шацкія азёры», у тым ліку «ўкраінскі Байкал», могуць у выніку вялікай засухі сцячы ў Беларусь.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**





ISSN 0546-1960